● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

5 сакавіка 1996 г.
аўторак, №№ 63-64
(22866-22867)



# ЗВЯЗДА

## РОЗГАЛАС

### КОЛЬКІ НА БЕЛАРУСІ ГАРАДОЎ-«СТОТЫСЯЧНІКАЎ»?

**Паводле папярэдніх даных Міністэрства статыстыкі і аналізу, на 1 студзеня ў беларускай сталіцы пражывала 1 мільён 706 тысяч чалавек.**

Найбольш буйнымі гарадамі краіны (з колькасцю жыхароў ад ста тысяч і болей) з'яўляюцца: Гомель (514 тысяч чалавек), Магілёў (365 тыс.), Віцебск (364 тыс.), Гродна (каля 300 тыс.), Брэст (292 тыс.), Бабруйск (226 тыс.), Баранавічы (171 тыс.), Барысаў (153 тыс.), Орша (139 тыс.) Пінск (129 тыс.), Мазыр (107 тыс.), Ліда (101 тыс.) і Салігорск (100 тысяч жыхароў).

Дарэчы, як сведчыць статыстыка, усяго ў пачатку года ў гарадах Беларусі пражывала 7 мільёнаў 109 тысяч чалавек, тады як на вёсцы — толькі 3 мільёны 203 тысячы нашых суграмадзян.

**Сяргей ГРЫБ.**

### У КОЖНАЙ ВЁСЦЫ БЕРАСТАВІЦКАГА РАЁНА ЦЯПЕР ЁСЦЬ СТАРАСТА

**Бадай, усюды ёсць найбольш аўтарытэтны чалавек, да якога вяскоўцы ідуць са сваімі бедамі і праблемамі. Кажучы гарадской мовай, нефармальны лідэр. Менавіта на такіх людзей (цяпер — старастаў) вырашылі абаперціся кіраўнік бераставіцкай «вертыкалі» Іван Захарчук і старшыня райсавета Аркадзь Карпуць.**

— Нейкага зацверджанага ў вярхах дакумента наконт старастаў не існуе, — гаворыць А. Карпуць. — Але мы ведаем, чаго хочам. Нам патрэбен чалавек, які ў любы момант паведаміць уладам аб тых ці іншых пытаннях, якія трэба вырашыць на карысць жыхароў вёскі. Скажам, патрэбна тэрміновая дапамога адзінокай бабулі. Альбо дрэнна ходзіць аўталаўка, няма тавараў першай неабходнасці. Нельга, каб гэтыя і многія іншыя праблемы накопліваліся на ўзроўні нездаволенасці людзей. Мы таксама разлічваем, што старасты дапамогуць сельскім Саветам у рабоце па добраўпарадкаванню і падтрыманню санітарнай культуры ў вёсках, у навядзенні парадку на могілках і г. д. Старасты будуць запрашацца на сесіі Саветаў і пасяджэнні іх выканкомаў.

Днямі ў райцэнтры адбыўся сход, на якім многія старасты (а іх абрана 127 чалавек), напэўна, упершыню ўбачылі кіраўнікоў шэрага раённых службаў. Ёсць надзея, што цяпер іх кантакты будуць больш цесныя. Вёскі ад гэтага толькі выйграюць.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

### ПЯЦЬ ГАДОЎ У ЭФІРЫ

**Учора «Радыёфакту» споўнілася пяць гадоў. 4 сакавіка 1991 года ў прамы эфір упершыню выйшла цяпер ужо, бадай, самая папулярная і цікавая на Беларусі радыёпраграма. Вось яны, героі-юбіляры: Аляксандр Шаўко, Алена Швайко, Валерый Радуцкі, Іна Ясінская, Іван Гладкі і Святлана Ілюшэнка.**

Менавіта дзякуючы гэтай нязменнай камандзе мы можам кожную раніцу на працягу гадзіны атрымліваць самую разнастайную інфармацыю.

Як сказаў Валерый Радуцкі, амаль 1300 гадзін у прамым эфіры — гэта не жарты. І смеючыся дадаў: «Нам трэба ставіць помнік толькі за тое, што мы ні разу не праспалі. Бо, каб своечасова выйсці ў эфір, ужо ў шэсць раніцы мы павінны быць на працы».

Калектыў газеты «Звязда» віншуе калег з юбілеем і жадае новых поспехаў і моцнага здароўя.

**Сяргей КУРКАЧ.**

## ПРЭЗІДЭНТ А. ЛУКАШЭНКА БАЧЫЦЬ НАШУ КРАІНУ ГОРДАЙ, СУВЕРЭННАЙ, НЕЗАЛЕЖНАЙ ДЗЯРЖАВАЙ

**4 лютага Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка правёў прэс-канферэнцыю па выніках свайго першага афіцыйнага візіту ў Расію. Ён зазначыў, што гэта не надзвычайная прэс-канферэнцыя, і што ён намераны і ў далейшым сустракацца з журналістамі раз у квартал.**

Ва ўступным слове Прэзідэнт выказаў свае ацэнкі ўнутранай сітуацыі ў Беларусі. На яго погляд, яна стабільная, калі не ўлічваць асобныя спробы асобных палітыкаў паўплываць у той ці іншы бок на яе, пры чым А. Лукашэнка не лічыць гэтыя спробы дэстабілізуючымі. Па яго меркаванню, вось супрацьстаяння цяпер, як і летась, праходзіць па некалькіх пунктах: Вярхоўны Савет — Канстытуцыйны Суд — прафсаюзы — палітычныя партыі — асобныя палітычныя дзеячы.»Я не маю намеру ісці да канфрантацыі, але збіраюся паказаць, хто чаго варты», — заявіў Прэзідэнт.

Гаворачы аб эканамічнай сітуацыі, А. Лукашэнка адзначыў значнасць для нашых прамысловых прадпрыемстваў падпісанага ў Маскве пагаднення аб так званым «нулявым варыянце». Аднак ён зазначыў, што прадпрыемствам нельга аўтаматычна разлічваць на спісанне з іх даўгоў: хтосьці працаваў стабільна, не карыстаўся расійскімі крэдытамі, своечасова плаціў за энерганосьбіты і падаткі ў бюджэт, а калі спісаць даўгі тым, хто працаваў нестабільна і мае вялікія запазычанасці, то першыя будуць у крыўдзе. Таму А. Лукашэнка прапанаваў наступную схему, над якой цяпер працуе ўрад: адтэрмінаваць на 4-5 гадоў для ўсіх суб'ектаў гаспадарання іх запазычанасці, і калі гэтыя прадпрыемствы за гэты час выйдуць з крызісу, то яны павінны будуць заплаціць даўгі, якія пойдуць на агульнанацыянальныя праграмы, перш за ўсё чарнобыльскую. Гаворачы ў цэлым аб сітуацыі ў эканоміцы Беларусі, А. Лукашэнка зазначыў, што асабліва псуюць яе чатыры нашы гіганты: МТЗ, МАЗ, «Інтэграл» і «Гарызонт», і заявіў, што ўрад мае намер выводзіць іх з крызісу, прымаючы канкрэтныя рашэнні па іх. Напрыклад, даць ільготу на расшырэнне экспарту, аб чым просіць «Інтэграл», або вызваліць ад пэўных падаткаў на нейкі час, аб чым просяць МАЗ і МТЗ.

А. Лукашэнка выказаў спадзяванне, што па выніках працы ў першым квартале гэтага года наша прамысловасць выйдзе на ўзровень адпаведнага перыяду мінулага года.

Далей Прэзідэнт канспектыўна выказаўся па іншых галінах гаспадаркі нашай краіны. Ён зазначыў, што дапамога сельскай гаспадарцы будзе зроблена ў дастатковых памерах і на дастатковым узроўні, у тым ліку ўгнаеннямі і палівам. У будаўніцтве ў першую чаргу будуць фінансавацца ўзводзімыя аб'екты сацыяльна-культурнага прызначэння і жыллё, а прамысловыя аб'екты будавацца не будуць. Гаворачы пра прадпрымальніцтва, А. Лукашэнка зазначыў, што ён мае намер супрацоўнічаць з нядаўна створанай Асацыяцыяй прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў.

Гаворачы аб банкаўскім сектары эканомікі, Прэзідэнт заявіў, што сёння разглядаецца праграма індэксацыі долі дзяржаўных прадпрыемстваў у статутным фондзе камерцыйных банкаў, якія былі створаны на базе дзяржаўных галіновых банкаў. Па яго словах, самі банкі з гэтым пагадзіліся і ў цэлым гэты працэс пройдзе у цывілізаваных рамках. Дзяржава, такім чынам, узмоцніць свае пазіцыі ў банкаўскай сферы: Гаворачы аб нацыянальнай валюце, А. Лукашэнка зазначыў, што ў лютым гэтага года было дасягнута станоўчае сальда ў 3 млн. долараў пры таргах на валютнай біржы, такім чынам, у Нацыянальнага банка дастаткова рэзерваў для забеспячэння стабільнасці нацыянальнай валюты.

Выказаў А. Лукашэнка і некалькі канкрэтных лічбаў па ўзроўню інфляцыі ў нашай краіне: студзень — 5,2 працэнта, люты — 5, у сакавіку чакаецца 2, а ў цэлым, на яго думку, сярэднемесячная інфляцыя ў Беларусі не павінна сёлета перавысіць 2,5 працэнта. Да яе будзе прывязана стаўка рэфінансавання Нацбанка і ўліковая стаўка камерцыйных банкаў, якія, па ўсёй верагоднасці, будуць рэгулявацца дзяржавай.

На думку А. Лукашэнкі, сёння мы дасягнулі таго ўзроўню, пасля якога ўжо немагчымы рост цэн і, відаць, цэны на масла, мяса, якімі цяпер затаварaны нашы базы, будуць падаць.

Звярнуўся А. Лукашэнка і да тэмы льгот, рэзка заявіўшы, што вяртання да ўсеахватнай сістэмы льгот не будзе, прычым ён адзначыў як палітыканства нядаўнія рашэнні па гэтай праблеме з боку Вярхоўнага Савета, заявіўшы, што праблема з ільготамі паступова вырашаецца.

Гаворачы аб знешняй палітыцы Беларусі, Прэзідэнт, зразумела, больш за ўсё звяртаўся да вынікаў нядаўняга візіту ў Маскву. Аднак, апярэджваючы гэтую размову, ён зазначыў, што ўрад і МЗС прадставілі яму Канцэпцыю знешняй палітыкі, якая грунтуецца на існуючым вопыце яе ажыццяўлення нашай краінай. Асноўны стрыжань гэтага дакумента — патрабаванне аб збалансаванасці знешняй палітыкі Беларусі паміж Усходам і Захадам. А. Лукашэнка зазначыў, што Беларусь адкрыта як для Усходу, так і для Захаду, у тым ліку ў эканамічнай сферы.

Свой візіт у Маскву Аляксандр Лукашэнка назваў вельмі насычаным. Перш за ўсё ён акцэнтаваў увагу на перамовах адзін на адзін з Прэзідэнтам Расіі Б. Ельцыным, зазначыўшы, што падчас гэтых сустрэч прэзідэнты дзвюх краін абмяркоўвалі тэму далейшай інтэграцыі дзвюх краін. Гэтай праблеме будзе прысвечаны сумесны дагавор, які прэзідэнты маюць намер падпісаць у канцы сакавіка або ў пачатку красавіка. Дакумент будзе прадугледжваць стварэнне магчымых наднацыянальных або міжнацыянальных кіраўніцкіх структур. Па словах А. Лукашэнкі, гаворачы аб усім гэтым і падпісваючы адпаведныя заявы, ён дзейнічаў строга ў рамках Канстытуцыі, якая дае магчымасць, не губляючы суверэнітэту, заключаць падобныя міждзяржаўныя пагадненні. Кожная дзяржава будзе сама вызначаць сферу сумесных дзеянняў і праграм, якія будуць даручаны гэтым наднацыянальным органам. Сёння гэтыя праблемы абмяркоўваюцца экспертамі, якія на працягу месяца распрацуюць праект названага дагавора. На думку А. Лукашэнкі, наднацыянальныя расійска-беларускія органы могуць займацца праблемамі ўзгаднення праблем праводзімых эканамічных рэформаў, уніфікацыі заканадаўства, стварэння ўмоў для канцэнтрацыі вытворчасці, дзейнасці фінансава-прамысловых груп; для правядзення узгодненай сацыяльнай палітыкі, аховы навакольнага асяроддзя, барацьбы са злачыннасцю і інш.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

## АБ'ЯДНАЛЬНЫЯ НАМАГАННІ ПРАВАСЛАЎЯ ЦЯПЕР АСАБЛІВА АКТУАЛЬНЫЯ

У першую нядзелю Вялікага посту, 3 сакавіка, які адзначаны ў царкоўным календары як свята трыумфу праваслаўя, у Свята-Духавым кафедральным саборы Мінска аб умацаванні веры і набожнасці маліліся ўдзельнікі міжнароднай канферэнцыі «Ідэі адзінства праваслаўных народаў у кантэксце сучаснай эпохі». Літургію правёў Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі ў саслужэнні архірэяў. Так пачаўся двухтыднёвы форум парламентарыяў праваслаўнага веравызнання з краін Еўропы, Закаўказзя і Азіі.

Мінская канферэнцыя, арганізатарам якой выступіў Фонд адзінства праваслаўных народаў, стала чарговай рабочай сустрэчай у рамках дзейнасці Еўрапейскай міжпарламенцкай асамблеі праваслаўя. Галоўныя тэмы дыскусій на ёй — праблемы заканадаўчага, навуковага і міжканфесіянальнага супрацоўніцтва дзяржаў і народаў Еўразійскага кантынента.

Удзельнікаў форуму, якія затым сабраліся ў Рэспубліканскім культурна-асветным цэнтры, цёпла вітаў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. «Сёння праваслаўе, — сказаў ён, — галоўная аб'яднальная сіла ва Усходняй Еўропе. Гэта тая гістарычная аснова, з якой краіны рэгіёна могуць дастойна ўвайсці ў састаў агульнаеўрапейскага дома і паступальна развіваць свае адносіны з іншымі сусветнымі культурамі».

Кіраўнік дзяржавы адзначыў далей, што, прапаведуючы хрысціянскія ідэі гуманізму, праваслаўе маральна загартоўвае людзей, дапамагае ім перадольваць цяжкасці. Прыклад Беларускай праваслаўнай царквы, якая не пакідае без сваёй падзвіжніцкай увагі ні адну балючую праблему грамадства, сказаў Аляксандр Лукашэнка, падкрэслівае важнасць супрацоўніцтва дзяржавы і царквы ў духоўным абнаўленні і згуртаванні народа. Паводле яго слоў, дзякуючы міласэрнасці веруючых многія людзі, якія маюць патрэбу ў дапамозе, атрымліваюць клопат і бескарыслівую падтрымку. «Асабліва актуальныя цяпер, — заключыў Прэзідэнт, — аб'яднальныя намаганні праваслаўя. Толькі разам нашы народы здольны прыйсці да працвітання».

Прывітанне міжнароднаму форуму праваслаўных парламентарыяў з пажаданнем паспяховай работы ад патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Алексія II зачытаў удзельнікам прадстаяцель Беларускай праваслаўнай царквы мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт.

Перад праваслаўным сходам у той жа дзень выступілі Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Сямён Шарэцкі, Прэзідэнт Еўрапейскай міжпарламенцкай асамблеі праваслаўя (ЕМАП), старшыня камітэта па справах грамадскіх аб'яднанняў і рэлігійных арганізацый Дзяржаўнай думы Расіі Віктар Зоркальцаў, прэзідэнт Фонду адзінства праваслаўных народаў, доктар філасофскіх навук Валерый Аляксееў і дэпутат Нацыянальнага сходу Балгарыі, член сакратарыята ЕМАП Елізавета Міленава.

Вечарам ва ўпраўленні беларускага экзархата ўдзельнікі канферэнцыі сустрэліся з Яго Высокапраасвяшчэнствам мітрапалітам Мінскім і Слуцкім Філарэтам, Патрыяршым Экзархам усяе Беларусі, паслухалі канцэрт духоўнай музыкі.

4 сакавіка форум праваслаўных парламентарыяў прадоўжыў сваю работу.

**Валянціна МЕНШЫКАВА, БЕЛТА.**

## МІЖПАРЛАМЕНЦКІЯ СУВЯЗІ БУДУЦЬ МАЦНЕЦЬ

4 сакавіка Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Сямён Шарэцкі сустрэўся з удзельнікамі міжнароднай канферэнцыі «Ідэі адзінства праваслаўных народаў у кантэксце сучаснай эпохі», якая днямі адбылася ў Мінску.

Праўда, на сустрэчы яе ўдзельнікі менш за ўсё гаварылі аб праблемах праваслаўя. Гэта і не дзіўна, бо ўсе замежныя госці з'яўляюцца дэпутатамі заканадаўчых органаў у сваіх краінах: Арменіі, Балгарыі, Грузіі, Казахстане, Латвіі, Расіі, Эстоніі ды на Украіне.

Таму іх перш за ўсё цікавілі пытанні, звязаныя з выбраннем і дзейнасцю беларускага парламента. С. Шарэцкі, а таксама В. Новікаў, У. Канаплёў, У. Нісцюк, В. Абрамава, І. Катляроў, якія прысутнічалі на сустрэчы, задаволілі цікавасць гасцей, расказаўшы ім пра дзейнасць Прэзідыума Вярхоўнага Савета, пастаянных камісій і дэпутацкіх фракцый, прынцыпы іх арганізацыі.

У заключэнне гутаркі ўдзельнікі канферэнцыі падзякавалі С. Шарэцкаму за тое, што Беларусь выступіла арганізатарам іх форуму і выказалі надзею, што такія сустрэчы будуць мацаваць міжпарламенцкія сувязі, якія, паводле трапнага заключэння Старшыні Вярхоўнага Савета, пакуль яшчэ знаходзяцца толькі ў зародку.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## *ВІНШАВАННЕ*

### *Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Лукашэнкі А. Р. асабоваму саставу беларускай міліцыі*

*Паважаныя работнікі і ветэраны міліцыі!*

*Сардэчна віншую вас з прафесіянальным святам -- Днём міліцыі.*

*Беларуская міліцыя прайшла гераічны шлях станаўлення і развіцця, упісала нямала яркіх старонак у гісторыю нашай дзяржавы.*

*І сёння, у нялёгкі для рэспублікі час, абсалютная большасць супрацоўнікаў органаў правапарадку добрасумленна і мужна вядзе барацьбу са злачыннасцю, абараняючы канстытуцыйныя правы і законныя інтарэсы грамадзян.*

*Першыя вынікі бягучага года ўсяляюць упэўненасць, што міліцыя ў стане павысіць эфектыўнасць сваёй работы, на высокім прафесіянальным узроўні выкрываць арганізаваныя злачынныя групы, раскрываць і расследаваць самыя складаныя злачынствы. Менавіта гэтага чакае ад вас наш народ, не без падставы звязваючы свой спакой з рэзультатыўнай работай міліцыі.*

*Глыбока перакананы, што асабовы састаў беларускай міліцыі будзе заўсёды з'яўляцца прыкладам самаадданых адносінаў да службовага абавязку, спагадлівасці і справядлівасці, цвёрдасці і рашучасці, глыбокай зацікаўленасці ў лёсе чалавека.*

*Шчыра жадаю ўсім работнікам міліцыі поспехаў у нялёгкай працы, здароўя, шчасця і дабрабыту.*

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*4 сакавіка 1996 г.*

## ВЯЛІКІ ПОСТ «ЗБІВАЕ» ЦЭНЫ?

**Розьнічныя цэны на харчовыя тавары на Камароўскім рынку г. Мінска (тыс. рублёў):**

***Мяса, птушка (кг):***
свініна — 23—50, цяляціна — 26—45, ялавічына — 20—40, бараніна — 25—40, куры, гусі — 19—31.

***Сала (кг)***
свежае — 25—30, салёнае — 25—40.

***Малочныя прадукты:***
малако (л) — 4—8, тварог (кг) — 18—25, смятана (кг)— 20—30, масла (кг) — 40—45.

Яйкі (дзес.) — 16—17.
Мёд (кг) — 60—70.
Алей (л) — 15—17.

***Крупы (кг):***
рыс — 6—11
грэчка — 7—12.
Цукар — 6,8—10.
Гарох (кг) — 8—12.

***Агароднiна (кг):***
бульба — 4—6
капуста — 8—10
морква — 6—10
рэпчатая цыбуля — 5—9
зялёная цыбуля — 6—10
часнок свежы — 15—35
часнок марынаваны — 30—35.
буракі — 5-6.

***Садавіна (кг):***
яблыкі — 10—35
бананы — 15—20
апельсіны — 13—18
мандарыны — 15—30.

***Кветкі (шт):***
гваздзікі — 6—8
ружы — 8—25.

Цэны за мінулы тыдзень істотна змяніліся — магчыма, паўплываў на іх Вялікі пост. Цэны на свініну знізіліся на 10—15 тысяч рублёў, на цяляціну, ялавічыну — на 10 тысяч рублёў, бараніну — на 10—13 тыс. руб. Свежае сала патаннела на 5 тыс. руб., салёнае — на 5—10 тыс. руб. Затое падаражэла смятана (на 4 тыс. руб. і масла (на 5 тыс. руб.) Можна крыху парадавацца і вегетарыянцам: раслінная ежа таксама крыху змянілася ў цане: кошт капусты знізіўся на пару тысяч рублёў, тое ж адбылося і з морквай. А вось свежы і марынаваны часнок патаннеў на цэлых 5—10 тыс. рублёў.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## ФІНАНСЫ І ЭКАНОМІКА — ПАД КАНТРОЛЕМ

**Чатыры гады назад Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыняў Закон аб Кантрольнай палаце. У нашай суверэннай краіне пачаў існаваць вышэйшы орган фінансава-эканамічнага кантролю.**

Учора ў Мінску прайшоў сход работнікаў Кантрольнай палаты. Амаль 200 чалавек, якія звязалі свае працоўныя біяграфіі з дзейнасцю гэтага органа, сабраліся на яго, каб абмеркаваць вынікі 1995 года, абмяняцца думкамі і прапановамі, выявіць пралікі і ўпушчэнні. З дакладам перад прысутнымі выступіў старшыня Кантрольнай палаты Васіль Саковіч. Сваімі пазіцыямі і меркаваннямі з кантралёрамі падзяліліся Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён Шарэцкі і прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір. Акрамя іх удзел у сходзе прынялі Генеральны пракурор краіны Васіль Капітан, старшыня Вышэйшага гаспадарчага суда Уладзімір Бойка, міністр фінансаў Павел Дзік, кіраўнікі іншых міністэрстваў і ведамстваў, старшыні шэрага пастаянных камісій Вярхоўнага Савета Беларусі.

*(Падрабязная справаздача са сходу будзе апублікавана ў адным з бліжэйшых нумароў «Звязды».)*

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**

## ПАСТАНОВА КАБІНЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 148

## АБ ДЗЯРЖАЎНЫМ РЭГУЛЯВАННІ ЦЭН НА ЛЕКАВЫЯ СРОДКІ, ВЫРАБЫ МЕДЫЦЫНСКАГА ПРЫЗНАЧЭННЯ І МЕДЫЦЫНСКУЮ ТЭХНІКУ

У мэтах дзяржаўнага рэгулявання цэн на лекавыя сродкі, вырабы медыцынскага прызначэння і медыцынскую тэхніку Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Зацвердзіць прыкладаемы Парадак фарміравання цэн на лекавыя сродкі, вырабы медыцынскага прызначэння і медыцынскую тэхніку, абавязковы да прымянення ўсімі суб'ектамі гаспадарання незалежна ад формаў уласнасці, а таксама фізічнымі асобамі, якія рэалізуюць іх на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

2. Прызнаць страціўшымі сілу:

Пастанову Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 31 ліпеня 1992 г. № 476 «Аб неадкладных мерах па лекаваму забеспячэнню насельніцтва рэспублікі» (ЗП Рэспублікі Беларусь, 1992 г., № 22, арт. 414);

Пастанову Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 14 ліпеня 1994 г. № 534 «Аб унясенні змянення ў пастанову Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 31 ліпеня 1992 г. № 476» (ЗП Рэспублікі Беларусь, 1994 г., № 20—24, арт. 405);

Пастанову Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 4 красавіка 1995 г. № 187 «Аб змяненні парадку фарміравання рознічных цэн на лекавыя сродкі і вырабы медыцынскага прызначэння» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1995 г., № 10, арт. 240);

Пастанову Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 24 ліпеня 1995 г. № 391 «Аб даацэнцы рэшткаў лекавых сродкаў і вырабаў медыцынскага прызначэння» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1995 г., № 21, арт. 503).

**Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь М. ЧЫГІР.**
27 лютага 1996 г.
г. Мінск.

*ЗАЦВЕРДЖАНЫ*
*пастановай Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 27 лютага 1996 г. № 148*

## ПАРАДАК ФАРМІРАВАННЯ ЦЭН НА ЛЕКАВЫЯ СРОДКІ, ВЫРАБЫ МЕДЫЦЫНСКАГА ПРЫЗНАЧЭННЯ І МЕДЫЦЫНСКУЮ ТЭХНІКУ

1. Рознічныя цэны на лекавыя сродкі, вырабы медыцынскага прызначэння і медыцынскую тэхніку, запасныя часткі і расходныя матэрыялы да яе (далей — тавары), вырабляемыя ў рэспубліцы і рэалізуемыя насельніцтву, установам і арганізацыям аховы здароўя незалежна ад ведамаснай падпарадкаванасці, установам і арганізацыям Міністэрства сацыяльнай абароны, Міністэрства адукацыі і навукі, фарміруюцца суб'ектамі гаспадарання незалежна ад формаў уласнасці зыходзячы з адпускных цэн прадпрыемстваў-вытворцаў, узгодненых з пакупніком, з дабаўленнем гандлёвай надбаўкі да 40 працэнтаў, уключаючы надбаўку аптовага звяна ў наступных памерах:

пры рэалізацыі лекавых сродкаў і вырабаў медыцынскага прызначэння — да 10 працэнтаў незалежна ад колькасці пасрэднікаў;

пры рэалізацыі медыцынскай тэхнікі, запасных частак і расходных матэрыялаў да яе — да 20 працэнтаў незалежна ад колькасці пасрэднікаў.

2. Рознічныя цэны на імпартныя тавары, закупляемыя суб'ектамі гаспадарання за кошт уласных валютных сродкаў і рэалізуемыя насельніцтву, установам і арганізацыям аховы здароўя незалежна ад ведамаснай падпарадкаванасці, установам і арганізацыям Міністэрства сацыяльнай абароны, Міністэрства адукацыі і навукі, фарміруюцца зыходзячы з разліковай адпускной цаны з дабаўленнем гандлёвай надбаўкі да 50 працэнтаў, уключаючы надбаўку аптовага звяна ў наступных памерах:

пры рэалізацыі лекавых сродкаў і вырабаў медыцынскага прызначэння — да 20 працэнтаў незалежна ад колькасці пасрэднікаў;

пры рэалізацыі медыцынскай тэхнікі, запасных частак і расходных матэрыялаў да яе — да 30 працэнтаў незалежна ад колькасці пасрэднікаў.

Разліковая адпускная цана вызначаецца суб'ектамі гаспадарання, якія ажыццявілі ўвоз тавару на тэрыторыю рэспублікі, зыходзячы з кантрактнай цаны (пералічанай у рублі па курсу Нацыянальнага банка ў вызначаемым Міністэрствам фінансаў парадку), мытнай пошліны, іншых мытных плацяжоў. Разліковая адпускная цана можа мяняцца ў сувязі са змяненнем курса валют. Пры гэтым імпартныя тавары, па якіх лічыцца крэдыторская запазычанасць па абавязацельствах перад пастаўшчыкамі, банкамі і іншымі крэдыторамі, даацэньваюцца на розніцу ў курсе валют з аднясеннем яе на павелічэнне ці змяншэнне запазычанасці. Пры папярэдняй аплаце імпартных тавараў даацэнка дэбіторскай запазычанасці ў замежнай валюце адносіцца на павелічэнне ці змяншэнне крыніц уласных сродкаў прадпрыемства.

3. Імпартныя тавары, закупляемыя ў лік крэдытаў, атрыманых пад гарантыю ўрада Рэспублікі Беларусь, рэалізуюцца заказчыкам у парадку, вызначаным у пункце 2. Разліковая адпускная цана вызначаецца зыходзячы з кантрактнай цаны (пералічанай у рублі ў парадку, што забяспечвае вяртанне ў бюджэт рублёвага эквіваленту, на ўмовах, вызначаных Міністэрствам фінансаў), мытнай пошліны, іншых мытных плацяжоў.

Даацэнка рэшткаў нерэалізаваных заказчыкам імпартных тавараў праводзіцца кожны месяц з улікам змянення курса валют з аднясеннем сум даацэнкі ў выглядзе курсавой розніцы на павелічэнне ці змяншэнне запазычанасці па крэдытах банка.

Рээкспарт указаных тавараў ажыццяўляецца са згоды ўрада Рэспублікі Беларусь.

4. Міністэрства аховы здароўя мае права вызначаць памер аптовай надбаўкі для падведамасных прадпрыемстваў ва ўстаноўленых межах.

## СПАБОРНІЧАЮЦЬ І БІЛЕТНЫЯ КАСІРЫ

**У бягучым годзе Беларуская чыгунка адзначае свой юбілей — 125-годдзе з дня заснавання. Гэтай падзеі быў прысвечаны конкурс «Міс Майстэрства і Зачараванне-96», які ўпершыню быў арганізаваны Мінскім аддзяленнем Беларускай чыгункі.**

У конкурсе прынялі ўдзел 7 дзяўчат — білетных касірак, якія прадстаўлялі гарады Барысаў, Оршу, Маладзечна і Мінск. Канкурсанткі пераадолелі пяць няпростых этапаў, а пераможцай была названа Наталля Баханько, касірка станцыі «Мінск-Пасажырскі». Ёй дастаўся галоўны прыз — пыласос.

**Алег ПАДАЛЯНІН.**

# ПРЭЗІДЭНТ А. ЛУКАШЭНКА БАЧЫЦЬ НАШУ КРАІНУ ГОРДАЙ, СУВЕРЭННАЙ, НЕЗАЛЕЖНАЙ ДЗЯРЖАВАЙ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Прэзідэнт Беларусі зазначыў, што акрамя таго ён абмяркоўваў са сваім расійскім калегам праблемы функцыяніравання мытнага саюза, яго недахопы і памылкі, магчымасці супрацоўніцтва дзвюх дзяржаў у сферы ваеннай і ваенна-прамысловай, неабходнасць уніфікацыі заканадаўства дзвюх краін па пытаннях эканомікі і забеспячэння жыццядзейнасці дзяржаў, навукі, культуры і адукацыі; абмеркавана праблема выкарыстання Беларуссю Калінінградскага порта на Балтыйскім моры, з улікам неабходнасці далейшых перагавораў і з Польшчай, Літвой; будаўніцтва трансеўрапейскай трасы Берлін--Масква на ўчастку Брэст--Масква; аб ахове межаў і неабходнасці дадатковага абсталявання мяжы Беларусі з Прыбалтыкай, аб праблемах міграцыі, двайнога грамадзянства... Апошняе пытанне паўстала ўпершыню ў двухбаковых адносінах, таму было вырашана сур'ёзна прапрацаваць яго, вывучыць і прапанаваць нейкі кампрамісны варыянт на будучых сустрэчах. А. Лукашэнка зазначыў, што ён абмеркаваў з Прэзідэнтам Расіі ход выканання сумеснага пратакола, падпісанага летась, падчас візіту Б.Ельцына ў Мінск, і заявіў, што гэты пратакол практычна выкананы.

Іншае вельмі важнае пагадненне, падпісанае на мінулым тыдні А. Лукашэнкам і Б. Ельцыным, аб урэгуляванні прэтэнзій фінансавага характару Прэзідэнт Беларусі назваў «не падарункам з боку Расіі», да яго ішлі доўга на ўзроўні ўрадаў, аднак справа гэтая прамаруджвалася. Расія даравала Беларусі 1200 млн. амерыканскіх долараў, аднак запазычанасць Расіі нашай краіне ў сваю чаргу, па словах А. Лукашэнкі, прыкладна адпавядае гэтай суме. Прычым, А. Лукашэнка зазначыў, што гэта не толькі плата за транзіт ці за ваенныя базы, але і ўлік таго фактару, што армія Беларусі прыкрывае сабой інтарэсы Расіі, што заходняя мяжа нашай краіны з'яўляецца адначасова і мяжой Расіі, але ўтрымліваецца толькі з нашага бюджэту. Акрамя таго, на тэрыторыі Беларусі пражывае каля 120 тысяч ваенных пенсіянераў, якія таксама з'яўляюцца немалой нагрузкай для беларускага бюджэту. Усё гэта, па словах А. Лукашэнкі, каштуе грошай, прыкладна паўтары сотні мільёнаў долараў у год.

Адказваючы на шматлікія пытанні журналістаў, А. Лукашэнка, у прыватнасці, заявіў, што ён не збіраецца змагацца за ўплыў на Канстытуцыйны Суд: «Гэта не той склад Канстытуцыйнага суда, за які я намераны змагацца». Па праблеме Старшыні Нацыянальнага банка Беларусі А. Лукашэнка заявіў, што на гэтае месца назначана Т. Віннікава, і яна будзе выконваць гэтыя абавязкі. Прэзідэнт мае намер прадставіць Вярхоўнаму Савету для зацвярджэння кандыдатуры як Т. Віннікавай, так і некаторых сілавых міністраў, віцэ-прэм'ераў -- адным пакетам.

«Дзяржаўнасць і суверэнітэт нашай краіны -- гэта тыя каштоўнасці, праз якія мы не можам пераступіць, -- зазначыў у канцы прэс-канферэнцыі А. Лукашэнка, -- ды і ніхто гэтага не патрабуе... Я бачу Беларусь як дзяржаву незалежную, гордую, суверэнную, якая не рэагуе на вокрыкі ні з Усходу, ні з Захаду...»

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## ЗВАНІЦЕ НОЧЧУ

**З першага сакавіка для насельніцтва рэспублікі ўведзены новыя тарыфы на карыстанне тэлеграфам і міжгароднім тэлефонам у межах Беларусі.**

Кошт слова ў тэлеграме павялічаны ў два разы, што складае 100 рублёў у звычайнай і 200 рублёў — у тэрміновай. Што датычыцца міжгародніх перагавораў, то тарыфы павялічыліся таксама ў 2 разы і склалі 600 і 1200 рублёў за хвіліну па Мінскай вобласці і рэспубліцы адпаведна. Акрамя гэтага ўведзены льготны тарыф у памеры 50 працэнтаў ад кошту адной хвіліны перагавораў на перыяд з 23 да 6 гадзін і кругласутачна — у выхадныя і святочныя дні.

**Сяргей ПРОТАС.**



**БЫВАЙ, ЗІМА!**

Жыхары вёскі Астрамечава Брэсцкага раёна праводзілі зіму. Усім было весела і цікава. Тым больш, што на свята прыехаў славуты касманаўт Пётр Клімук.

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ
### у камерцыйных банках на 4 сакавіка 1996 г.

| Назва банка | Долар ЗША | | Нямецкая марка | | Расійскі рубель | | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Белбізнесбанк (гал. аперац. упраў.) | 11950 | 12100 | 8000 | 8200 | 2.30 | 2.55 | 067 |
| ФК «Вераніка»*** (за расійскія рублі) | 11970<br>4840 | 12100<br>4940 | 8100 | 8300 | 2.43 | 2.49 | 531-504 |
| Мінскі транзітны банк*** | 11950 | 12150 | 7850 | 8200 | 2.30 | 2.50 | 298-174 |
| Ф-л 0104 АКБ «Минский транзитный банк» | 11900 | 12100 | 7900 | 8150 | 2.30 | 2.50 | 372-825 |
| Народны банк | 11950 | 12100 | 8000 | 8250 | 2.32 | 2.47 | 238-610 |
| «Алімп» | 12000 | 12150 | 8100 | 8400 | 2.44 | 2.52 | 508-556 |
| Ф-л № 1 АКБ «Алімп» | 12000 | 12150 | 8000 | 8150 | 2.40 | 2.48 | 291-646, 067 |
| Магазін «Панарама», фірмы «Энергія ГмбХ» | 11900 | 12300 | 8150 | 8400 | 2.40 | 2.60 | 265-612 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 11500 | | 7834.85 | | 2.37 | | |
| Цэнтрабанк Расіі | 4818 | | 3381.57 | | 100 бел.р. 39.60 | | |

* — Аперацыя з валютай звыш 1000 $ праводзіцца на дагаворных умовах

**Агенцтва Граўцова.**

## ГАЗЕТЫ Ў БРЭСЦЕ МОЖНА КУПІЦЬ ТОЛЬКІ ПАСЛЯ 10 ГАДЗІН РАНІЦЫ

**З нядаўняга часу свежыя газеты ў Брэсце можна купіць толькі пасля 10 гадзін раніцы.**

Прызвычаіўшыся купляць прэсу па дарозе на працу, многія жыхары Брэста былі непрыемна здзіўлены, калі даведаліся аб прычыне спазнення газет. Як растлумачыў БелаПАН начальнік Брэсцкага абласнога прадпрыемства «Саюздрук» Васіль Марэйка, спазняцца пошта будзе яшчэ доўга: цягнік, да якога прычапляўся ў Мінску паштовы вагон, аднемены. Наступны прыходзіць у Брэст толькі а дзевятай гадзіне. Спробы паштавікоў знайсці выйсце са становішча пакуль поспехам не ўвянчаліся. Да мая кіраўніцтва чыгункі абяцае перагледзець графік руху цягнікоў. Тады, верагодна, брэсцкі жыхар зможа азнаёміцца са зместам газет уранку.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ, БелаПАН.**

## АРМІЯ РЫХТУЕЦЦА ВАЯВАЦЬ З ПАВОДКАЙ

**Змагацца з веснавымі паводкамі будуць заклікаены і падраздзяленні Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.**

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў прэс-службе Міністэрства абароны, у адпаведнасці з загадам міністра абароны генерал-лейтэнанта Леаніда Мальцава распрацаваны шэраг мераў па аказанню дапамогі грамадзянам пры ахове мастоў і гідразбудаванняў ад веснавога крыгаходу. Да 15 сакавіка будуць укамплектаваны спецпадраздзяленні, выдзелены неабходная тэхніка і плаўсродкі. Плануецца, што ў падрыўных работах пры ачыстцы рэк і вадаёмаў ад лёду прымуць удзел 35 каманд.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

## МІНСКІ ТРАКТАРНЫ ЗАВОД ШУКАЕ ШЛЯХІ ЭКАНОМІІ

**З-за рэзкага павелічэння кошту матэрыяльных і паліўна-энергетычных рэсурсаў, зніжэння пакупніцкай здольнасці выпуск прадукцыі МТЗ скараціўся са 100 тысяч штук трактароў у 1990 годзе да 26,4 тысячы ў 1995-м..**

У агульным сабекошце прадукцыі доля затрат на паліўна-энергетычныя рэсурсы даволі вялікая і складае 10,1 працэнта. Зыходзячы з гэтага, у студзені бягучага года камітэтам «Белэнергазберажэнне» сумесна са спецыялістамі МТЗ распрацаваны комплекс захадаў па эканоміі паліўна-энергетычных рэсурсаў за кошт укаранення энергазберагальнага абсталявання і сучасных тэхналагічных працэсаў, мадэрнізацыі і аўтаматызацыі сістэм цеплазабеспячэння і выкарыстання другасных энергарэсурсаў. Пры наяўнасці 16 мільярдаў рублёў для ажыццяўлення вышэйзгаданых захадаў завод штогод зможа эканоміць 12 тысяч умоўнага паліва, або 29,3 мільярда рублёў. .

**Яўген ГРУБІЧ, БелаПАН.**

## «ЛАКАМАТЫЎ» СВЯТКУЕ

Нядаўна добраахвотнае спартыўнае таварыства «Лакаматыў» адзначыла свой юбілей — 60-годдзе з дня ўтварэння. Найбольш светлыя старонкі біяграфіі спартыўнага руху чыгуначнікаў, безумоўна, звязаны з выступленнямі спартсменаў гэтага ведамства на міжнародных спаборніцтвах. За 60 гадоў у «Лакаматыве» падрыхтаваны 32 спартсмены, якія ў свой час станавіліся алімпійскімі чэмпіёнамі, чэмпіёнамі свету і Еўропы, уладальнікамі ўзнагарод самай высокай пробы на першынствах Саюза.

Каму не вядомы такія імёны, як веласіпедыст Ігар Сумнікаў, кідальнік ядра Міхаіл Дамаросаў, адна з мацнейшых скакух у вышыню Надзея Марыненка. Чыгуначнікі і сёння гатовы падтрымаць добры пачын сваіх спартыўных зорак. Некаторыя з іх павінны будуць паказаць сваё майстэрства на летніх Алімпійскіх гульнях у Атланце.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

# БЕЗ ПРАВА НА ПАМЫЛКУ

**Больш як паўстагоддзя мінула пасля заканчэння Вялікай Айчыннай, аднак і па сённяшні дзень беларуская зямля захоўвае ў сабе смяротны метал. Сапёрам Узброеных Сіл, унутраных войскаў прыходзіцца працаваць не складаючы рук, і, відаць, беспрацоўе ім не пагражае.**

Толькі ў мінулым годзе інжынерныя часці выканалі 1094 заяўкі на размініраванне. Было абясшкоджана 7575 выбухованебяспечных прадметаў, у тым ліку 33 процітанкавыя, 17 проціпяхотных мін, 204 авіябомбы, 4293 артснарады, 1281 мінамётная міна, 377 гранат.

Часам ваенным сапёрам прыходзіцца працаваць у экстрэмальных умовах, якія патрабуюць асаблівага майстэрства і вопыту. Напрыклад, групай размініравання ў кастрычніку ў Пастаўскім раёне Віцебскай вобласці былі абясшкоджаны 2404 выбухованебяспечныя прадметы, якія засталіся з часоў першай сусветнай вайны. У лістападзе з дна ракі Ула было вылаўлена 247 артснарадаў, якія «залягалі» на глыбіні 2-3 метраў.

**Генадзь ХУДЗІНСКІ,**
**прэс-служба Міністэрства абароны.**

# НІБЫ СЕЛЯДЦЫ Ў БОЧЦЫ

**Менавіта так можна сказаць аб пасажырах гомельскіх тралейбусаў, калі яны дабіраюцца па сваіх справах у розныя канцы горада. І гэта не выпадкова, бо з наяўных 223 тралейбусаў зараз на маршруты выходзяць 140—145, што на трыццаць менш, чым у пачатку мінулага года.**

А якая перспектыва? Нярадасная. Бо сёлета будзе спісана яшчэ 87 тралейбусаў, а набыта з-за адсутнасці фінансаў значна менш (па аналогіі мінулага года, калі было спісана 30 машын, а набыта ўсяго 12).

Тралейбусны вузел у горадзе, а таксама беспрацоўе, несвоечасовая выплата пенсій і зарплаты вельмі раздражняюць гамяльчан, 80 працэнтаў якіх карыстаюцца электратранспартам. Многія, хто, да таго ж, адчувае сябе ў тралейбусах «селядцамі» ў бочцы, за праезд не плацяць. І тым самым яшчэ больш ускладняюць тралейбусную праблему.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

## У СВЕЦЕ

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

- **ЛІКВІДАЦЫЯ БАЕВІКОЎ ПРАЦЯГВАЕЦЦА**

У Сернаводску працягваецца аперацыя па ліквідацыі дудаеўскіх баевікоў. Як паведаміла ўпраўленне інфармацыі Міністэрства абароны, у спецыяльнай вайсковай аперацыі ўдзельнічаюць падраздзяленні міліцыі і ўнутраных войскаў, армейскія часці толькі блакіруюць Сернаводск. Усю адказнасць за пачатак баявых дзеянняў камандуючы аб'яднанымі сіламі генерал Ціхаміраў усклаў на баевікоў.

- **У РАСІІ 49 КАНДЫДАТАЎ НА ПАСАДУ ПРЭЗІДЭНТА**

Учора Цэнтрвыбарком завяршыў рэгістрацыю ініцыятыўных груп выбаршчыкаў, якія вылучылі кандыдатаў у прэзідэнты Расіі. Тэрмін падачы дакументаў на рэгістрацыю завяршыўся другога сакавіка. Усяго зарэгістравана 59 ініцыятыўных груп выбаршчыкаў, якія вылучылі 49 кандыдатаў на пасаду прэзідэнта Расіі.

- **НОВЫЯ ДОЛАРЫ ЎВОДЗЯЦЦА Ў АБАРАЧЭННЕ**

Учора раніцай у Вашынгтоне было афіцыйна абвешчана аб дакладнай даце і парадку выпуску ў абарачэнне новай стодоларавай банкноты. Кіраўніцтва федэральнай рэзервовай сістэмы і Міністэрства фінансаў ЗША растлумачылі парадак накіравання новых банкнот ва ўпаўнаважаныя банкі на тэрыторыі ЗША, а таксама ў іншыя краіны свету. Паводле даных Міністэрства фінансаў ЗША, на сённяшні дзень амерыканскае бюро друку і гравіроўкі ўжо накапіла больш як 600 мільёнаў новых стодоларавых банкнотаў. Амаль 200 амерыканскіх дыпламатычных місій і пасольстваў за мяжой выкарыстоўваюцца зараз адміністрацыяй ЗША для тлумачэння характэрных прымет новых грошай і для распаўсюджвання інфармацыі на 20 замежных мовах.

- **ПЕРАМОВЫ АДКЛАДЗЕНЫ**

Ізраільска-сірыйскія перамовы, якія павінны былі аднавіцца ўчора ў ЗША, перанесены ў сувязі з выбухамі бомбаў у Іерусаліме. Гэта рашэнне скаардынавана з амерыканскай дэлегацыяй і даведзена да ведама Сірыі. Аб новай даце аднаўлення перамоў пакуль не паведамляецца.

- **АПАЗІЦЫЯ НЕ ВОЗЬМЕ ЎДЗЕЛУ Ў ВЫБАРАХ**

Галоўная апазіцыйная партыя Ірана «Вызваленчы рух» заявіла, што не будзе ўдзельнічаць у назначаных на пятніцу ўсеагульных выбарах. Партыя абвясціла, што чацвёра яе кандыдатаў, якім было дазволена змагацца за выбранне, не будуць балаціравацца. Такое рашэнне было прынята пасля таго, як іранскія ўлады забаранілі руху правядзенне ўсіх перадвыбарных мітынгаў і канферэнцый.

- **ЗНЯТА ЗАСЛОНА САКРЭТНАСЦІ**

Кітай зняў заслону сакрэтнасці з няўдалага запуску спадарожніка 15 лютага гэтага года. Афіцыйныя асобы паведамілі, што ў выніку моцнага выбуху загінулі 6 чалавек і было разбурана 80 дамоў. Запланаваныя на гэты год запускі яшчэ сямі ракет адкладзены.

- **КАЛУМБІЯ НЕ ЗМАГАЕЦЦА З НАРКОТЫКАМІ?**

Жыхары Калумбіі здзіўлены рашэннем Злучаных Штатаў аднесці іх краіну да ліку дзяржаў, якія не бяруць належнага ўдзелу ў барацьбе з наркотыкамі. Вашынгтон заяўляе, што адміністрацыі прэзідэнта Эрнеста Сантэра пагражае імпічмент у сувязі з абвінавачаннямі ў прыняцці хабару ад наркамафіі ў перыяд перадвыбарнай кампаніі.

- **ВАЛЮТЧЫКАМ БУДУЦЬ АМПУТАВАЦЬ КАНЕЧНАСЦІ**

Лівійскі лідэр Муамар Кадафі заявіў, што асобы, якіх зловяць пры ажыццяўленні валютных аперацый, асабліва з доларам, могуць быць прыгавораны да смерці або да ампутацыі канечнасцей. «Долар — гэта валюта нашага ворага. Аперацыі з імі за межамі цэнтральнага банка будуць разглядацца як здрада», — заявіў Кадафі. Афіцыйны курс складае 3,3 долара за 1 лівійскі дынар, аднак на чорным рынку за 1 долар можна купіць тры дынары.

- **У ПАР СУДЗЯЦЬ МІНІСТРА АБАРОНЫ**

Незвычайны судовы працэс пачаўся ў панядзелак у ПАР, дзе перад судом паўсталі былы міністр абароны і 10 іншых генералаў. Акрамя гэтага будуць судзіць і 9 іх саўдзельнікаў. Усе яны абвінавачваюцца ў забойстве жанчын і дзяцей у адным з негрыцянскіх кварталаў.

***Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.***

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Вышэйшыя чыны шведскай паліцыі паведамілі грамадскасці каралеўства аб тым, што забойства былога прэм'ер-міністра краіны Улафа Пальме, відаць, ніколі не будзе раскрыта. Адпрацоўвалася шмат версій. Аднак усе яны прыводзілі ў тупік, паколькі не была знойдзена зброя, з якой забілі Пальме. Сышчыкам таксама не ўдалося прыйсці да адназначнай высновы аб матывах тэракта. Цяпер вырашана аддзел, які займаўся яго расследаваннем, скараціць з 14 чалавек да трох, якія будуць выконваць ролю архіварыусаў па тэхнічнаму абслугоўванню вялікай колькасці друкаванай і аўдыёвізуальнай інфармацыі, якая скапілася за гады следства.

**ІТАР-РАСС**

*Жыхары швейцарскага горада Дэлеман часта кажуць, што Дзіяне Шварцкопф трэба было б нарадзіцца хлопчыкам.*

*На самай справе, гэта 13-гадовая дзяўчынка ні ў чым не адстае ад хлопчыкаў. Яна хутка бегае, гуляе ў футбол, цудоўна лазіць па дрэвах і скалах. Вышыванне, ігра на музычных інструментах і да т. п. яе не вабяць. Не так даўно яна задумала палятаць. Сваімі рукамі скантруявала балон, пад ім умацавала невялікую карзіну. І ў адзін цудоўны дзень, напоўніўшы балон дымам ад вялікага кастра, узнялася ў паветра. Вышыня была невялікая, усяго каля 12 метраў; сам палёт працягваўся прыкладна чвэрць гадзіны. І цяпер Дзіяну жартам завуць «сястрой братоў Мангальф'е».*

**«Вельтвохе»**

107-гадовы Эліяс Хушмальдзі ажаніўся з 20-гадовай дзяўчынай ў вёсцы Джуджан на поўдні Ірана. Ён упэўнены, што каханне ў іх узаемнае. У жаніха пяцёра дзяцей і каля 50 унукаў і праўнукаў. Ён здаровы і знаходзіцца ў выдатнай форме.

**«Труд».**

## ДАТЫ

**5 сакавіка — 100-годдзе з дня нараджэння Кандрата Крапівы — беларускага драматурга, байкапісца, празаіка, вучонага-мовазнаўцы, грамадскага дзеяча. Сваю літаратурную дзейнасць ён пачаў ў 1922 г. І з таго часу яго сатырычныя вершы, фельетоны, байкі, паэмы, апавяданні сталі з'явай не толькі літаратурнага жыцця, але і грамадскага.**



*Кандрат КРАПІВА*

### Я НЕ ПЯСНЯР!

Я не пясняр!
Я не мастак! —
Хай так;
Мой твор не твор,
— дзіця,
Мой спеў не спеў,
а крык,
Але у тон
Пад камертон
Жыцця
Мой зык:
Я крыкну — ўраз
Па гушчах мас
Нясецца хваля рэх
І ў свой прабег
Раджае смех,
Здаровы смех.
*1925 г.*

### ДЫПЛАМАВАНЫ БАРАН

***Байка***

Ў адным сяле (не важна — дзе)
Хадзіў Баран у чарадзе.
Разумных бараноў наогул жа нямнога,
А гэты дык дурней дурнога —
Не пазнае сваіх варот:
Відаць, што галава слабая.
А лоб дык вось наадварот —
Такога не страчаў ніколі лба я:
Калі няма разумніка другога,
Пабіцца каб удвух,
Дык ён разгоніцца ды ў сцену — бух!
У іншага дык выскачыў бы й дух,
А ён — нічога.
І вось за дурасць гэту
Яго вучоным раз празвалі нейк насмех,
А каб двара не перабег,
На шыю прывязалі мету.
— Вось, — кажуць, — і дыплом табе.
Што гэта за «дыплом», Баран — ні «мя», ні «бэ»,
Аднак жа перад Кошкаю пачаў ён ганарыцца:
— А што ж ты думала, сястрыца!
Хіба мне пахваліцца няма чым?
Дыплом я заслужыў, здаецца ж, галавою.
І не раўнуйся ты са мною.
— Аб гэтым лепей памаўчы, —
Сказала яму Кошка. —
Каб ты быў разумнейшы трошка
Ды розумам раскінуць мог авечым,
То ўбачыў бы, што ганарыцца нечым,
Бо заслужыў ты свой дыплом
Не галавой, а лбом.

Другі баран — ні «бэ», ні «мя».
А любіць гучнае імя.
*1926 г.*

*ПРАЦЯГ СКАНДАЛУ*

# ЛЁС ТАЦЦЯНЫ ШЭЎЧЫК ЯШЧЭ НЕ ВЫРАШАНЫ

Па-ранейшаму няяснай застаецца будучыня беларускай лёгкаатлеткі, скакухі ў вышыню Таццяны Шэўчык. Пасля таго, як у яе аналізах быў знойдзены забаронены да ўжывання прэпарат мекілтэстастэрон, абедзве пробы, «А» і «В», далі станоўчы вынік. Прычым заключэнне па пробе «В» прыйшло з міжнароднай спартыўнай лабараторыі ў Барселоне літаральна некалькі дзён таму.

Беларускай федэрацыі лёгкай атлетыкі прыйшлося тэрмінова прымаць меры — тры месяцы дыскваліфікацыі. Па правілах Міжнароднай федэрацыі лёгкай атлетыкі (ІААФ) у выпадку выкрыцця спартсмена ва ўжыванні допінгу можна пазбаўляць афіцыйных выступленняў тэрмінам аж на 4 гады.

БФЛА ў пісьме ІААФ прасіла дыскваліфікаваць Шэўчык толькі на тры месяцы, паколькі лёгкаатлетцы злашчасную таблетку прапісаў доктар, да таго ж забароненага прэпарата ў арганізме беларускі было мізэрна мала.

У любым выпадку лёс нашай надзеі на Алімпійскіх гульнях у Атланце, удзельніцы чэмпіянату свету па лёгкай атлетыцы ў Гётэборгу залежыць ад рашэння зверху. Калі кіраўніцтва Міжнароднай федэрацыі лёгкай атлетыкі задаволіць просьбу беларускага боку, то ў Шэўчык дыскваліфікацыя закончыцца ў канцы мая і яна едзе ў ЗША, калі ж будзе прынята рашэнне пазбавіць мінчанку права выступаць на спаборніцтвах пад эгідай ІААФ на чатыры гады, то можна будзе развітацца не толькі з марамі пра Алімпіяду, але і паставіць крыж на ўсёй спартыўнай кар'еры.

У Беларускай федэрацыі лёгкай атлетыкі з дня на дзень чакаюць рашэння. На ўчарашні дзень афіцыйнага адказу са штаб-кватэры ІААФ яшчэ не паступіла.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

ВЫТВОРЧЫЯ ДРАМЫ

# ГІГАНТ СТАІЦЬ НА КАЛЕНЯХ

## І ХУТКА НАОГУЛ УПАДЗЕ. КАЛІ НЕ АТРЫМАЕ ПАДТРЫМКІ

Аб вытворчых магутнасцях Жлобінскага аб'яднання штучнага футра і яго значнасці для рэспублікі гадоў дзесяць назад сведчаць вось гэтыя лічбы і факты. Кожныя суткі ў бюджэт з прадпрыемства паступала 1800 тысяч рублёў у якасці падатку з абароту, і калі тут адбываўся хоць бы маленькі збой, аб гэтым адразу ж станавілася вядома ў Савеце Міністраў. І не было таго дня, каб на рахунку аб'яднання не налічвалася 20—25 мільёнаў рублёў. Ці трэба казаць, якія гэта былі вялікія грашовыя сродкі на той час?

Тут неабходна зазначыць, што галаўное прадпрыемства аб'яднання — фабрыка штучнага футра — было пабудавана ў горадзе над Дняпром па распараджэнню Савета Міністраў СССР і з'яўляецца унікальным збудаваннем, якое на той час не мела аналагаў у Савецкім Саюзе ды і на сённяшні дзень не мае іх у краінах СНД. Першая чарга яе была прынята ў эксплуатацыю ў канцы 1978-га, а трэцяя — 1985 года. Прадпрыемства разлічана на выраб трыццаці мільёнаў квадратных метраў штучнага футра. Яно размяшчалася з улікам зручнага геаграфічнага становішча: буйны чыгуначны вузел, рака Днепр, наяўнасць працоўных рэсурсаў. І яшчэ: прадпрыемства з прасторнымі вытворчымі і складскімі памяшканнямі (толькі асноўны корпус фабрыкі займае звыш адзінаццаці гектараў) знаходзіцца пад адным дахам, які звязаны адзіным комплексам цепла-, вода- і газазабеспячэння. У пачатку 1993 года на базе аб'яднання было створана арэнднае вытворча-гандлёвае аб'яднанне «БелФА».

Пры так званай адміністрацыйна-планавай сістэме эканомікі жлобінскія футравікі працавалі напружана і без перабояў круглы год, бо да іх былі «прывязаны» звыш пяцісот пяцідзесяці буйнейшых спажыўцоў — швейныя фабрыкі розных рэспублік Савецкага Саюза. Іхняя прадукцыя вызначалася высокай якасцю, і вырабы з яе не залежваліся нідзе, бо яна выпускалася ўмелымі майстрамі на амерыканскім абсталяванні. Таму прадпрыемства доўгія гады і з'яўлялася суперпрыбытковым.

Але, як кажуць, часы мяняюцца, а з імі змянілася і сістэма, у якой мы жывём зараз. Былое перадавое прадпрыемства, флагман лёгкай прамысловасці Савецкага Саюза, закупкі імпартнай сыравіны для якога рабіліся непасрэдна праз Маскву, сёння знаходзіцца ў катастрафічным становішчы, на мяжы банкруцтва. Дастаткова толькі асэнсаваць вось гэтыя лічбы, каб зразумець трывогу калектыву.

Зараз крэдыторская запазычанасць прадпрыемства дасягнула сарака трох мільярдаў рублёў, запазычанасць за газ — больш як два мільярды, па заработнай плаце — 3,9 мільярда і перад бюджэтам — больш за тры мільярды рублёў. Сёння склады аб'яднання завалены яго прадукцыяй, і само яно ледзь варушыцца, бо асноўныя пастаўшчыкі сыравіны — Наваполацкае аб'яднанне «Палімір» і Светлагорскае «Хімвалакно» —патрабуюць ад яго разлікаў і неахвотна адгружаюць яе сюды.

Што ж здарылася? Прычын правалу можна знайсці шмат. Сярод іх і тое, што некалі прагрэсіўнае абсталяванне, асабліва першай чаргі фабрыкі, маральна і фізічна састарэла, бо пасля будаўніцтва аб'екта на яго рэканструкцыю не выдзялася ні капейкі; і што яго прадукцыя неканкурэнтаздольная побач з заходнімі ўзорамі штучнага футра, хаця спажыўцоў краін былога СССР задавальняе і па цане, і па якасці, што папярэдняе кіраўніцтва аб'яднання ў сваёй дзейнасці, калі на парадак дня ў рыначных умовах паўстаў прынцып самавыжывальнасці, дапусціла нямала пралікаў і памылак.

Аб гэтым варта было б гаварыць многа-многа, калі б не агульная эканамічная сітуацыя краін былога Савецкага Саюза і калі б у нашай рэспубліцы такіх прадпрыемстваў было раз-два і ўсё. Бяда ж у тым, што прадукцыя БелФА патрэбна людзям, што яна карыстаецца ў іх попытам, але яны не могуць яе купіць, бо ў абсалютнай большасці народаў Расіі, Украіны, Казахстана, Узбекістана няма грошай. Паспрабавалі жлобінскія футравікі адправіць свае вырабы туды без папярэдняй аплаты, дык і дагэтуль не дачакаліся тых дзесяці мільярдаў рублёў. Таму, каб неяк выкруціцца, вырашылі як мага больш пашыраць сетку фірменнага гандлю.

З гэтай мэтай вымушаны былі пераабсталяваць свой спартыўны цэнтр у гандлёва-камерцыйны і, як расказаў нам старшыня Жлобінскага гарвыканкома Уладзімір Ерафееў, дасягнулі ў гэтым добрых вынікаў. З 73 мільярдаў рублёў, якія летась прадпрыемствы горада атрымалі ад фірменнага гандлю, каля 44 мільярдаў прыпадае на БелФА. Ідзе работа па стварэнню прадстаўніцтваў аб'яднання ў краінах СНД. Адно ўжо ёсць у Ленінградскім рэгіёне, рыхтуюцца яны яшчэ ў Чэлябінскай і Тульскай абласцях. Хутка адкрыюцца фірменныя магазіны аб'яднання ў Гродне і Мазыры. Ёсць дамоўленасці аб гэтым і з кіраўнікамі горада Крычава.

І ўсё ж фірменны гандаль усе праблемы і балячкі гіганта лёгкай прамысловасці вырашыць не можа, бо рынак рэспублікі яго таварам у цэлым, як сцвярджаюць спецыялісты, ужо амаль насычаны. Тым больш, што сітуацыя значна ўскладняецца наступным: жыццё паказвае — штогод попыт на штучнае футра са студзеня па май уключна рэзка скарачаецца, бо запас цёплых рэчаў у гэты перыяд людзі, як правіла, не робяць, а аб сезоннасці работы калектыву прадпрыемства ніхто не думае. Разлічваць жа на выхад на рынкі збыту краін далёкага замежжа таксама не даводзіцца, бо, паўтаруся, аналагічная іхняя прадукцыя там хаця і намнога даражэйшая, але затое лепшай якасці. Спадзяванні на краіны блізкага замежжа з прычыны іхняй неплацежаздольнасці вельмі і вельмі прывідныя.

А тут яшчэ новая бяда, якая, гаворачы мовай спартсменаў, калі не накаўтавала, дык паслала прадпрыемства ў глыбокі накдаўн. БелФА з'яўлялася адным з заснавальнікаў і кліентаў філіяла акцыянерна-камерцыйнага банка «Дукат». На разліковым рахунку аб'яднання ў ім знаходзіцца 15 мільярдаў 200 мільёнаў рублёў. Усім вядома сёння, што банк стаў неплацежаздольным, ад чаго пацярпела і БелФА, апынуўшыся на мяжы краху. Якія толькі захады не рабілі футравікі для таго, каб вярнуць тыя мільярды: звярталіся і ў «Дукат», і ў Нацыянальны банк, і ў Міністэрства фінансаў, і ў Адміністрацыю Прэзідэнта, і ў Кабінет Міністраў, і ў Вышэйшы гаспадарчы суд, які, дарэчы, прыняў рашэнне на карысць БелФА, — банк і дагэтуль не пералічыў на разліковы рахунак аб'яднання ніводнага рубля.

Больш таго, ва ўсіх вышэйпералічаных інстанцыях так ці інакш кіраўнікам прадпрыемства намякаюць: самі «ўляпаліся» ў той банк, самі і выкарасквайцеся. Вось дык пазіцыя! Аб'яднанне, маючы грошы, захоўвае іх у банку, але, атрымліваецца, дзяржава не гарантуе іх захавання там, не страхуе іх і не мае рычагоў вяртання іх акцыянерам. Гэта з аднаго боку. А з другога — банкаўскія справы звычайна ахутаны тайнай, і вынікі работы банкаў не заўсёды вядомы ўкладчыкам, бо яны фактычна не маюць доступу да той дакументацыі, якую хацелі б мець. І калі б мелася ў дзяржаве сістэма афіцыйнага апавяшчэння, у якім становішчы знаходзяцца на тым ці іншым этапе банкі, укладчыкі маглі б своечасова выйсці з іх, перавесці свой разліковы рахунак у іншы, надзейны банк. Гэтага ж у нас няма, і кліенты банка даведваюцца аб яго банкруцтве толькі тады, калі ўжо практычна нічога зрабіць нельга. Тут папроку заслугоўвае і Нацыянальны банк, бо на яго ўскладзены кантроль за камерцыйнымі банкамі.

А што значаць тыя страчаныя мільярды для БелФА, гаварыць, здаецца, дасведчанаму чалавеку не трэба. Яны былі б пушчаны ў абарот і прынеслі б прадпрыемству прыбытак, а той прыбытак ды зноў у абарот і г.д. Карацей кажучы, грошы рабілі б грошы, якіх на прадпрыемстве вельмі не хапае і якія хоць бы ў нейкай ступені аблегчылі б тут становішча спраў. У гэтай сітуацыі, напэўна, было б правільна, калі б такім гаротнікам, як БелФА, якія пацярпелі не па сваёй віне, ды выдаць крэдыт пад залог гэтай запазычанасці, аб чым, дарэчы, яго кіраўнікі і просяць. Але пытанне не вырашаецца, і прадпрыемства імкліва коціцца ўніз. Так імкліва, што калі два месяцы назад тут выбіралі новага генеральнага дырэктара аб'яднання, ніхто на гэту пасаду ісці не хацеў: адказнасць велізарная, а дапамогі з вышэйшых арганізацый — з камароў нос. І ўсё ж генеральнага знайшлі. Ім стаў былы намеснік галоўнага інжынера БелФА Міхаіл Кастылёў, за якога прагаласавала 98,9 працэнта ўдзельнікаў канферэнцыі працоўнага калектыву.

Мы сядзім з ім у кабінеце, і Міхаіл Глебавіч разважае:

— Вяртанне тых 15 млрд. 200 млн. для нас вельмі важнае. Вы іх згубілі, вы іх і вяртайце, заяўляюць нам ва ўсіх высокіх інстанцыях. Прабачце, а што значыць — «мы згубілі»? Мы што, толькі на сябе працуем, толькі аб сабе клапоцімся? Не, БелФА — прадпрыемства арэнднае, у якім, дарэчы, доля ўласнасці дзяржавы — каласальная. Мы — наёмнікі ў дзяржавы і падпарадкоўваемся ўсім яе законам. А што атрымліваецца? А тое, што дзяржава быццам бы ні пры чым, што мы трапілі ў бяду, не можам за многае разлічыцца. Напрыклад, за цяпло, якім, акрамя сваіх патрэб, мы забяспечваем цэлы мікрараён з дзіцячымі садкамі, школамі, сотнямі кватэр. Уявіце толькі, што будзе, калі і мы зоймем пазіцыю «мая хата з краю»: у нас няма чым плаціць, дык мы, грамадзяне, адключым цяпло ў мікрараёне.

— Дапусцім, вам вернуць тыя грошы. Ці выжывеце вы пасля гэтага?

Міхаіл Глебавіч адказаў не раздумваючы:

— Не, не выжывем. Толькі працягнем на пэўны час сваё існаванне. Усе тыя грошы пойдуць на пакрыццё запазычанасці.

— Дык а што далей? Што наперадзе?

— Вось аб гэтым і будзе ісці сёння размова на пасяджэнні Савета працоўнага калектыву.

Я прысутнічаў на ім, папярэдне пазнаёміўшыся з работай некаторых цэхаў. Старшыня прафкома Святлана Панчук раз-пораз спынялася то на адным участку, то на другім і канстатавала: вось тут яшчэ ў чэрвені працавалі ўсе лініі, а зараз толькі адна, вось тут бяздзейнічае абсталяванне з-за адсутнасці сыравіны, вось тут скапілася на складах процьма футра, бо няма яго збыту і г.д. і да т.п.

А на савеце пачуў наступнае. Заказаў на люты на рэалізацыю прадукцыі няма, хаця сыравіна яшчэ ёсць. Аднак ужо спыніў адгрузку яе Наваполацк, бо напярэдадні з ім не разлічыліся. Тое ж самае заявілі і хімікі Гродна, Светлагорска. За студзень ад спажыўцоў на БелФА паступіла 7 млрд. 111 млн. 300 тысяч рублёў, што ў чатыры разы менш, чым было затрачана на выраб прадукцыі. Вялікая колькасць высокакваліфікаваных спецыялістаў-мужчын звольнілася з прадпрыемства і перайшла на працу на Беларускі металургічны завод, дзе ім гарантавалася адпаведная зарплата.

А ўвогуле аб цяжкім становішчы калектыву гаварылася мала. Толькі таму, што кожны ўдзельнік нарады добра ведаў гэта. Акцэнт жа рабіўся на тым, як не ўпасці з калень, на якіх гігант лёгкай прамысловасці стаіць сёння, на жывот. Хтосьці прапанаваў і далей пашыраць свае прадстаўніцтвы ў краінах СНД і развіваць фірменны гандаль, хтосьці — арганізаваць вытворчасць мяккіх цацак з адным з прадпрыемстваў Мінска, для чаго перакваліфікаваць вязальшчыц на швачак, хтосьці — правесці скарачэнне штатаў з такім разлікам, каб за год звольніць 500 чалавек.

І на кожны аргумент знаходзіўся контраргумент. А менавіта: мяккія цацкі выпрабляюцца даўным-даўно ў Гомелі і імі забіты магазіны. Ці будзе збыт жлобінскіх цацак — невядома, тым больш, што цэны на іх вялікія. Скарачэнне? Прадпрыемства па профілю сваёй работы жаночае. Сярод жанчын — велізарная колькасць тых, хто скасаваў шлюб і з'яўляецца адзіным карміцелем у сям'і. Гэта — раз. Пры скарачэнні звольненым, вядома, трэба, згодна з заканадаўствам, выплаціць адпаведную дапамогу. А на гэта няма грошай. Гэта — два.

Дык дзе ж выйсце?

— Мы ўсе ў нашай рэспубліцы выжываем, а не жывем. Чаму? — разважае намеснік генеральнага дырэктара аб'яднання па эканоміцы Тамара Моматава. — Прычын гэтаму шмат, аднак я хачу назваць, на мой погляд, галоўныя. Нават летась, калі мы пакаціліся рэзка ўніз, БелФА пры ўсёй складанасці сітуацыі пералічыла ў бюджэт 55 млрд.рублёў, а сёлета ў адпаведнасці з планам вытворчасці падаткі складуць не менш як 70 мільярдаў. Мы разумеем, што ад гэтага нікуды не дзенешся. Аднак ці задумваюцца наверсе, якой цаной гэта даецца нам, таваравытворцам, у той сітуацыі, калі ў рэспубліцы, я лічу, не выпрацавана свая ўласная канцэпцыя таваравытворчасці? Напэўна, ужо даўно трэба было зрабіць аналіз рынку ў Беларусі і даць прадпрыемствам рэспублікі інфармацыю — што яму патрэбна. І калі сёння прадукцыя БелФА не знаходзіць свайго пакупніка, дык ці не правільней будзе змяніць яго наменклатуру ці знізіць вытворчасць футра і вырабаў з яго (прадпрыемства мае сваю эксперыментальную фабрыку).

— Або знайсці інвестара, які б уклаў у нашу вытворчасць свае грашовыя сродкі, і мы б выраблялі прадукцыю, карысную для рэспублікі, — дадае Міхаіл Глебавіч.

— А самі вы не можаце зрабіць гэта?

Адказ быў такі. БелФА можа знайсці інвестара на адзін які-небудзь станок з-за сваёй беднасці. Кіраўнікоў прадпрыемства, якія ў вочы не бачылі жывога амерыканскага ці нямецкага бізнесмена, заядае сумна вядомая цякучка. Для такой вялікай справы патрэбны агульныя зацікаўленасць і ўзаемаразуменне як адказных работнікаў на месцы, так і ў Кабінеце Міністраў.

З Міхаілам Глебавічам нельга не пагадзіцца. Тым больш, што падобны прыклад — побач, у суседнім Светлагорску. Два-тры гады назад у аб'яднанні «Хімвалакно» ішла размова аб поўным вывадзе з вытворчасці магутнасцей па выпуску віскознага корду і звальненні да трох тысяч чалавек. Аднак кіраўнікі прадпрыемства па ўзгадненню і з падтрымкай вышэйшых арганізацый аператыўна ажыццявілі экстранную структурную пераарыентацыю на новыя віды прадукцыі. І ў кароткія тэрміны асвоілі выраб віскозных тэкстыльных нітак, нятканага матэрыялу «спанбонд», мяшкоў з прапілену і г.д., якія карыстаюцца павышаным попытам у спажыўцоў. І, што вельмі важна, аблвыканком падтрымаў кіраўнікоў аб'яднання па далейшаму яго развіццю.

...Я ад'язджаў са Жлобіна позна ўвечары. На вакзале, гэтак жа, як і днём, і раніцай, мітусілася да сотні і болей маладзіц і дзяўчат з футрам і лялькамі з яго, выробленымі іхнімі рукамі. Чакалі чарговага пасажырскага цягніка, каб нешта прадаць у час яго прыпынку. Шчаслівіцаў было крайне мала: пасажыры купілі дзве-тры пары тапачак з футра і аднаго сабачку, таксама з футра. Прадаўцамі былі работніцы БелФА, якія неўзабаве могуць аказацца беспрацоўнымі, калі прадпрыемству не будзе аказана належная дапамога.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

**ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЦЬ АФАРМЛЕННЯ АБАНЕМЕНТА**

На абанементе павінен быць пастаўлены адбітак касавай машыны.

Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанементе праставляецца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).

Для афармлення падпіскі на газету або часопіс, а таксама для пераадрасавання выдання бланк абанемента з дастаўчай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталогах.

Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі «ПВ-МЕСЦА» робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.

*РЫНАЧНЫ ПОПЫТ І ПРАПАНАВАННЕ*

# «Актайн» — вартавы вашых тайнаў

***Што робяць у сусветным бізнесе, каб даведацца аб задумках канкурэнта і тым самым абысці яго? Напрыклад, у амерыканскім бізнесе? Там іншы раз спецыялізаваныя агенцтвы «наймаюць служачых, звальняемых канкурэнтам, прымушаюць іх выкрадаць тэхнічную дакументацыю; нярэдка справа даходзіць нават да прагляду змесціва карзін для папер».***

*(Артур Хейлі. Раман «Колы».)*

***«11 студзеня гэтага года ў Вілейскім раёне, пад мостам цераз замёрзлую рачулку каля вёскі Старынкі, былі знойдзены два трупы маладых мужчын. Агнястрэльныя раны сведчылі аб тым, што ахвяры памёрлі зусім не ад інфаркту.***

***Злачынства ўчынілі двое забойцаў-кілераў. Гэтую крывавую «работу» ім заказалі некалькі мінскіх і кіеўскіх «бізнесменаў».***

*(З матэрыялаў беларускага друку.)*

***Прыведзеныя прыклады гавораць толькі аб адным: абарона сакрэтаў сваёй вытворчасці, уласнага бізнесу, а таксама (далёка не ў апошнюю чаргу!) свайго жыцця і здароўя для айчынных прадпрымальнікаў у сённяшніх умовах стала клопатам нумар адзін. Гэтую задачу дапаможа вырашыць створаны ў Мінску вучэбна-кансультацыйны цэнтр «Актайн» па падрыхтоўцы менеджэраў-спецыялістаў службы бяспекі недзяржаўных прадпрыемстваў.***

***Адным са стваральнікаў цэнтра «Актайн» з'яўляецца вядомы ў недалёкім мінулым беларускі спартсмен Юрый ЯКАЎЛЕЎ. Цяпер ён — член прэзідыума Федэрацыі бокса Беларусі, старшы выкладчык аддзялення бокса кафедры фізвыхавання Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі, суддзя вышэйшай нацыянальнай катэгорыі Беларусі па боксу і кікбоксінгу.***

***Сёння Юрый Уладзіміравіч адказвае на пытанні журналіста аб некаторых задачах даволі-такі незвычайнай для нас установы.***

**— Назва вашага цэнтра расшыфроўваецца як «ахова камерцыйных тайнаў». На паняцце «камерцыйная тайна» ў тых ці іншых сітуацыях спасылаюцца многія, аднак ці ўсе дакладна ведаюць, што гэта такое?**

— Не адкрыю Амерыкі, калі скажу: веды ў галіне навукі і тэхнікі даўно ўжо зрабіліся найкаштоўнейшым таварам. Цана такой інфармацыі прывяла да таго, што навуковыя даследаванні, навейшыя тэхналогіі ў многіх краінах свету цяпер аднесены да сферы «павышанай аховы». Многія фірмы стварылі свае ўласныя службы бяспекі, у функцыі якіх, разам з аховай рухомай і нерухомай маёмасці, розных аб'ектаў, уваходзіць папярэджанне і спыненне выдачы сакрэтаў фірмы.

Да камерцыйнай тайны спецыялісты адносяць любую канфідэнцыяльную кіраўніцкую, вытворчую, навукова-тэхнічную, гандлёвую і іншую інфармацыю, якая ўяўляе каштоўнасць для прадпрыемства ў дасягненні перавагі над канкурэнтамі і атрыманні прыбытку.

Падкрэслю і тое, што дзяржава ў нас гарантуе права прадпрымальніка на камерцыйную тайну і яе абарону — гэта запісана ў Палажэнні аб камерцыйнай тайне, якое зацверджана пастановай урада ад 6 лістапада 1992 года № 670.

**— Тут, Юрый Уладзіміравіч, незразумела адно: у нашай былой таталітарнай дзяржаве было столькі розных сакрэтаў і тайнаў, што хоць адбаўляй. Нямала іх засталося і цяпер. Аднак з'яўляецца яшчэ адна...**

— Растлумачу і гэту сітуацыю. У любой дзяржаве і грамадстве маюцца звесткі рознай ступені сакрэтнасці, а таму існуе некалькі асноўных відаў тайнаў. Перш за ўсё, гэта дзяржаўная тайна (звесткі асаблівай важнасці і зусім сакрэтныя), службовая тайна, якія аб'ядноўваюцца ў агульнае паняцце «дзяржаўныя сакрэты».

Ахову дзяржаўных сакрэтаў у нас выконвае Камітэт дзяржбяспекі, рэжымна-сакрэтныя падраздзяленні іншых органаў дзяржавы. Што ж датычыцца камерцыйнай тайны, то яе абарона ад уцечкі да канкурэнта поўнасцю кладзецца на плечы самога прадпрымальніка. Замежны вопыт паказвае, што для гэтага і ствараюцца ў фірмах спецыяльныя падраздзяленні — служба бяспекі.

Падкрэслю яшчэ раз, што ў нашым выпадку размова ідзе менавіта аб нядзяржаўных структурах. Іх прыватныя ахоўныя службы займаюцца спецыфічнай дзейнасцю, якая з'яўляецца для іх цалкам арганічнай. У дзяржаўных жа органаў, як вядома, свае задачы.

**— Адразу відаць, што без грунтоўнай прававой падрыхтоўкі вашым слухачам не абысціся.**

— У «Актайне» яны яе і атрымаюць. Усе неабходныя дысцыпліны ў нас будуць выкладаць спецыялісты вышэйшай катэгорыі, якія маюць немалы вопыт работы ў спецслужбах, КДБ, МУС, вялікі выкладчыцкі стаж, пераважная большасць — доктары і кандыдаты навук. Прыцягваем да работы ў нашым цэнтры прафесараў і дацэнтаў з розных дзяржаўных ВНУ. Стралковую падрыхтоўку, заняткі па боксу, самба, дзюдо, іншых адзінаборствах будуць весці майстры спорту, заслужаныя трэнеры рэспублікі.

**— Сапраўды, усё, што створана чалавечымі мазгамі ў сферы вытворчасці, бізнесе, павінна быць надзейна абаронена — з гэтым не паспрачаешся. А вось як фізічна абараніць гэтыя самыя мазгі? Правамернасць пытання падкрэслівае хоць бы той жа выпадак з гібеллю двух прадпрымальнікаў у Вілейскім раёне, ды і іншыя дзесяткі, калі не сотні падобных здарэнняў. Якой тактыцы дзеянняў будуць у вас вучыць будучых работнікаў прыватнай службы бяспекі?**

— Яны атрымаюць у нас пэўныя навыкі, каб умець прадбачыць пагрозлівую сітуацыю, навучыцца мадэліраваць яе.

Практыка паказвае, што для «заказных» забойстваў знаходзяць так званага кілера. Такі паскуднік таксама рыхтуецца, вывучае магчымасць выканаць «заказ» з найбольшай бяспекай для сябе. Ён вывучае лад жыцця сваёй будучай ахвяры, яе прывычкі — дзе чалавек бывае, куды ездзіць і якімі маршрутамі, у які час, каб потым падлавіць яго.

Спецыяліст службы бяспекі таксама павінен прадбачыць падобнае развіццё падзей, умець правесці «прафілактыку», каб папярэдзіць іх. Гэта значыць — ведаць лад жыцця свайго шэфа і адпаведна будаваць сістэму аховы, каб заўсёды падстрахаваць начальніка, надзейна яго прыкрыць і наогул выключыць магчымасць нападу.

**— А калі хтосьці адважыцца на прымітыўны грубы напад на будынак фірмы, кабінет кіраўніка?**

— Вось я і кажу: трэба мець надзейную ахову, службу бяспекі. Гэта раз. Па-другое, неабходна прымяняць надзейныя электронныя сродкі абароны.

Мінскія, напрыклад, спецыялісты могуць расказаць на гэты конт нямала гісторый. Аднойчы рэкеціры «завіталі» ў адну фірму — і з парога: плаціце нам працэнт, і мы будзем вас «ахоўваць». Сапраўдныя ж ахоўнікі фірмы спачатку ўгаворвалі гэтых «робін гудаў», а потым, бачачы іх нахабныя наскокі і нейкія «пошукі» зброі ў кішэнях, надавалі брытагаловым такіх хукаў і аперкотаў, што тыя ледзь панеслі адтуль ногі, забыўшыся на пакінутыя на месцы «аперацыі» газавыя балончыкі.

**— Між іншым, дзе з'яўляюцца гэтыя балончыкі, там можа «засвяціцца» і куды больш небяспечная зброя. Тут ужо ў самы раз задумацца аб прававых асновах прыватнай ахоўнай дзейнасці.**

— Безумоўна. Тут неабходна дакладна ўяўляць пэўныя размежаванні: што можа дазволіць сабе прыватная служба бяспекі, калі яна дзейнічае ў мэтах перасцярогі і спынення злачыннай дзейнасці якіх-небудзь асоб, і што выходзіць за рамкі службовых паўнамоцтваў прыватнай аховы. Узнікае, напрыклад, важнае пытанне наконт узроўню неабходнай самаабароны — вельмі прынцыповы момант.

**— Міжволі задумаешся, якія ж супермены змогуць быць на ўзроўні ўсіх гэтых патрабаванняў? Хатнюю гаспадыню, скажам, ці выкладчыка спеваў падобным прамудрасцям ніколі не навучыш. Каго, Юрый Уладзіміравіч, вы маеце на ўвазе, калі запрашаеце ў «Актайн» «маладых, інтэлектуальна развітых мужчын і жанчын»?**

— Паступіць у цэнтр на вучобу могуць спадзявацца хлопцы, якія маюць адпаведныя навыкі па пэўных відах спорту.

Наогул жа мы чакаем пераважна спартсменаў з самых розных ВНУ, разумова развітых маладых людзей, студэнтаў, выпускнікоў — у тым ліку і з тэхнічных інстытутаў.

У жанчын-абітурыентак таксама павінны быць спартыўная загартоўка і навыкі. На Захадзе, праўда, хапае такіх «нечаканых» дам, якія ў стане скруціць любога бамбізу. Аднак мы больш арыентуемся на падрыхтоўку менавіта жанчын-менеджэраў, арганізатараў службы бяспекі ў фірмах, бо поле дзейнасці тут вельмі шматпланавае.

Пры адборы кандыдатаў на вучобу самая вялікая ўвага будзе ўдзяляцца маральнаму ўзроўню кандыдата, яго адданасці выбранай справе, асабістай прывычцы паважаць законы. Да ўсяго гэтага дадаткова будуць прывучаць маладых людзей і ў час вучобы.

Пры прыёме, безумоўна, будзем «прасвечваць» кандыдата з усіх бакоў, вывучаць яго самога, яго мінулае жыццё, яго схільнасці, акружэнне, сяброў і знаёмых, наводзіць усе неабходныя даведкі.

Умовы даволі суровыя, скажа хто-небудзь і будзе мець рацыю. Але менавіта такімі яны і павінны быць, калі правільна разумець усю спецыфіку дзейнасці цэнтра «Актайн». Калі ж камусьці некаторыя яе «моманты» засталіся не зусім зразумелымі, то кожны можа пазваніць па кантактных тэлефонах: (0172) 39-93-35 і 32-51-02. Інфармацыя будзе самая поўная.

**Інтэрв'ю правёў**
**Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**

*СІТУАЦЫЯ*

# НЕ ШУКАЙЦЕ КАРУПЦЫЮ Ў ХАТАХ

***Надрукаваў гэты загаловак, а потым вырашыў усё-такі сябе праверыць. Энцыклапедычны слоўнік дае: «Карупцыя — прамое выкарыстанне службовай асобай правоў,звязаных з яе пасадай, у мэтах асабістага ўзбагачэння». Што ж, усё правільна, сёння цяжка знайсці службовую асобу, якой пасада адкрывае шырокія магчымасці, пад страхой старой хаты ці ў цеснай двухпакаёвай кватэрцы. Як правіла, маюць такія асобы асабнякі, дзе жылая плошча вылічаецца сотнямі квадратных метраў.***

***У апошнія гады высакародны лозунг барацьбы з карупцыяй, можна сказаць, лунае над Беларуссю. Асабліва ёмка гэты лозунг выкарыстоўваецца ў час перадвыбарных кампаній. А вось што атрымліваецца з высакароднай справы рэальна.***

Жыццё маленькага гарадка значна адрозніваецца ад жыцця горада буйнога, са шматлікім насельніцтвам. Так, і тут з'яўляюцца мікраraёны забудоў шматкватэрнымі «каробкамі», дакладней, з'яўляліся раней: у апошнія гады ў маленькіх гарадках калі і будуецца што, то найчасцей у індывідуальным парадку. Адрозніваецца жыццё райцэнтраў найперш тым, што тут вельмі цяжка застацца па-за ўвагай. Усе навідавоку. Любы больш-менш значны факт становіцца імгненна вядомым грамадскасці. І гэта не толькі таму, што насельніцтва няшмат і ўсе ўсіх ведаюць. Сама атмасфера жыцця райцэнтраў —запаволеная, не такая і багатая на падзеі — спрыяе хуткаму распаўсюджанню вестак і чутак. Ды і начальства, сапраўднага начальства, не так і шмат. Ну а за ім, асабліва ў нас, на захадзе, сочаць вельмі пільна. У старэйшых жа пакаленнях жыве памяць аб пане-начальніку, як сімвале ўлады, дабрабыту, прыкладзе для пераймання.

Паставы — тыповы заходнебеларускі раённы гарадок. Зразумела, і тут за апошнія гады выраслі свае «вуліцы для бедных» з шыкоўнымі асабнякамі, гаспадары якіх адзін перад адным выхваляюцца не толькі памерамі, але і знешняй аздобай, унутраным начыннем. Зрэшты, пра гэта не раз пісалася, прыклаў руку сам. Такіх забудоў на Беларусі дзякуючы аб'яўленай некалі Саветам Міністраў палітыцы крэдытавання індывідуальнага жыллёвага будаўніцтва вельмі шмат. Нейкі час пасля таго, як лозунг барацьбы з карупцыяй загучаў вельмі грунтоўна, насельнікі гэтых самых «вуліц для бедных» пацішэлі ў трывожным чаканні — няўжо пачнуць разбірацца, насельнікі іншых вуліц, наадварот, знаходзіліся ў радасным чаканні — нарэшце пачнуць разбірацца.

Сёння чаканне гэта і ў тых, і ў другіх перарасло ва ўпэўненасць: нічога не будзе.

Але не, шаноўныя, нешта ўсё-такі робіцца. Нядаўна завітаў да мяне «карупцыянер», Рыгор Новікаў з Пастаў. Вылавілі-такі спрытнюгу, папаўся.

А справа вось у чым. Пракуратура раёна накіравала ў суд іскавую заяву да грамадзяніна Р.Р. Новікава. У ёй гаворыцца, што гэты самы грамадзянін, пачынаючы з 2 красавіка 1993 года, атрымаў ільготны крэдыт на будаўніцтва дома (за чатыры прыёмы каля пяці мільёнаў рублёў). Але гэты крэдытны дагавор быў заключаны незаконна, бо сям'я грамадзяніна не мела патрэбы ў паляпшэнні жыллёвых умоў. Як сцвярджаецца ў іску, на момант атрымання крэдыту Р.Р. Новікаў з сям'ёй (тры чалавекі) пражываў у двухпакаёвай кватэры плошчай 29,8 кв. метра.

А калі так, пракуратура патрабуе праз суд спагнаць з парушальніка 147 мільёнаў 754 тысячы 643 рублі!

Шчыра сказаць, мой «карупцыянер», называючы гэту лічбу, хапаецца за галаву. Ён працуе вартаўніком, жонка поварам, на дваіх у месяц атрымліваецца каля пяцісот тысяч. Такую суму яны не тое што не могуць заплаціць, яны яе не ўспрымаюць рэальна.

Гісторыя ж сям'і такая: у свой час Новікаў пакінуў сваю першую сям'ю, прыйшоў жыць у кватэру да новай жонкі. У Ніны ад першага мужа былі два сыны. Неўзабаве нарадзіўся яшчэ адзін хлопчык. Два пакойчыкі на пяцярых — згадзіцеся, цеснавата.

Вось у пачатку 93-га і пайшоў Новікаў пытацца: як можна палепшыць умовы жыцця. Параілі чалавеку: будаўніцтва кватэр цяпер ніякага няма, а вось вазьмі крэдыт ды будуйся пакрысе сам. Страшнавата, але іншага выйсця няма, старэйшыя сыны — ужо дарослыя людзі. Дарэчы, на момант атрымання крэдыту, 2 красавіка 1994 года, у кватэры былі прапісаны чатыры, а не тры чалавекі: Новікаў Рыгор — прапіска з 86 года, Новікава Ніна — з 86 года, Новікаў Дзмітрый — з 87 года, Лашчотка Андрэй з 86 года. Трэці сын, Уладзімір Лашчотка, прапісаўся толькі ў 94 годзе, гэта звязана з яго службай. Але сёння ў кватэры прапісаны ўсе пяцёра. Уладзімір ажаніўся, мае ўжо дзіця, вымушаны выехаць, здымаць прыватную кватэру. Андрэй таксама ажаніўся, але пакуль што даслужвае тэрмін кантракта ў расійскай арміі, у той самай Чачні, імкнецца на радзіму. Вернецца. А вось дзе будзе жыць?

Дом так і не дабудавалі, не хапіла сродкаў, а цяпер гэта ўвогуле здаецца нерэальным. Пабываў я ў доме і каля яго. Немалы, прама скажам. Але ж і сыноў трое. Зазначу, што на той жа вуліцы давялося пабачыць не проста дамы, а цэлыя палацы. Некаторыя з іх будаваліся

Яшчэ адзін момант: у Пастаўскім аддзяленні Ашчадбанка, дзе Новікаў 2 красавіка ўзяў крэдыт, пісьмо са змяненнямі і дапаўненнямі Савета Міністраў і Нацыянальнага банка № 169 атрымалі толькі 14 красавіка. Хаця ўступала яно ў сілу 31 сакавіка 1993 года. Але гэта не было прызнана за апраўданне, і, зыходзячы з таго, што Новікавых у кватэры жыве толькі трое, крэдыт 25.08.94 года прызналі незаконным. Рыгор Новікаў быў вымушаны перааформіць яго на звычайны, пад 145 працэнтаў. Розніца аказалася вельмі істотнай, патрэбную суму спагналі з аўтакалоны 2437. І Новікаў некалькі месяцаў не атрымліваў заработнай платы. Пасля гэтага будаўніцтва і прыпынілася.

І цяпер іск пракуратуры на 147 мільёнаў рублёў. Маёмасць у адказчыка, зразумела, апісалі. Неўзабаве суд.

Вось вам «карупцыянер». Голенькі, без камуфляжа.

Большасць маіх суразмоўцаў, кампетэнтных у гэтых справах, тлумачылі, што справу Новікаў, напэўна, выйграе. Калі не ў Паставах, то ў Віцебску ці Мінску. Але колькі гэта яму будзе каштаваць грошай, нерваў!

Увогуле, мяне крыху нават бянтэжыць такая выбіральнасць пры пошуку карупцыянераў. Паспрабаваў пацікавіцца, а хто ж яшчэ ў райцэнтры злоўлены на няправільнасці афармлення гэтых самых крэдытаў. Ды нібыта і няма. Хаця, пачакайце, быў яшчэ адзін выпадак — зваршчык з завода «Беліт». У яго таксама выявілі нейкія парушэнні.

Ёсць тут адна акалічнасць. Магчыма, і хутчэй за ўсё сапраўды тыя, хто, карыстаючыся службовым становішчам, сувязямі, рэальнай уладай, бралі крэдыты, змаглі так аформіць дакументы, што камар носа не падаткне. Той, каму гэта дадзена, умее скласці патрэбныя паперы. Ёсць жа пляменнікі, дзеці, цясці ды цешчы, на каго афармляецца лішняя плошча. Але калі ў Мінску гэта і праходзіць, то ў райцэнтры — не. Тут людзі цудоўна бачаць і ведаюць усё. І таму суд над «карупцыянерам» Новікавым можа ператварыцца ў фарс, які падалье масла ў вогнішча нездаволенасці, азлобленасці. «Што застаецца мне, — пытае Рыгор Новікаў, малады яшчэ мужчына, у якога няпроста складваецца жыццё, які ўжо прывык атрымліваць ад яго «падарункі», але такога ўсё ж не чакаў, — безвыходнасць. А самае галоўнае, што ўсе кругом разумеюць бязглуздасць сітуацыі, спачуваюць».

Заўважце, я не абвінавачваю праваахоўныя органы. Яны ў многім бездапаможныя. Але калі сапраўды мы хочам выкараніць карупцыю, будзем жа больш настойлівыя. Я дык увогуле за прыняцце ўрадавага рашэння аб публікацыі ў мясцовай прэсе спісаў тых, хто карыстаўся крэдытамі — льготнымі пяціпрацэнтнымі, чарнобыльскімі — беспрацэнтнымі. Тады ўсё ўсім стане зразумелым.

**Алесь КАСЦЕНЬ.**

Віктар КАРАМАЗАЎ

# Жыве Мантэнь!

З дзённіка

**Летась «Звязда» ўжо друкавала старонкі з будучай кнігі пісьменніка Віктара Карамазава. Прапануем вашай увазе яшчэ некалькі старонак з дзённіка.**

**Я К І СТАЛІЦА,** Крычаў падзелены на раёны. Сталіцу дзяліла ўлада, а мой маленькі гарадок — народ. Адсюль і назвы раёнаў не аднаго маральна-эстэтычнага кораня. У сталіцы яны, як ва ўсіх сталіцах СССР, крамлёўскага гатунку: Савецкі, Першамайскі, Цэнтральны, Фрунзенскі. А тут Ганчароўка, Забялышын, Латынь, Пагарань — ад душы, ад працы, ад побыту народнага.

Ад улады назвы часовыя.

Ад народа — надоўга.

Назву Забялышын ужываў яшчэ Меер у кнізе «Апісанне Крычаўскага графства або былога старාства».

**ІДУ ПА ГАНЧАРОЎЦЫ:** з гары на гару — яна скрозь на прыгорках ды горках. Я і сам з душком ганчарным: усе гаршкі пасля вайны Ганчароўка ляпіла і абпальвала, можна сказаць, перад маімі вокнамі.

Зайшоў да Пятра Сцебіхава — мастака і рыбака. Хатка ў яго маленькая, жыццё не разгоністае, дзеткамі ды фарбачкамі сагрэтае. Жонка на працы, і гарачая юшка са свежай рыбы на стале. На сценах пейзажы — нашы, яго і мае, краявіды. Сёрбалі юшку і разглядалі пейзажыкі.

Выйшаў я на вуліцу — дадому топаць няма ахвоты. Падаўся цераз ручай у процілеглы бок, на гару.

Спыніўся каля дамка пабеленага — пазнаў. Калі вучыўся ў школе, тут быў туберкулёзны дыспансер, і ў ім ляжалі мама і бацька. Ад туберкулёзу тады памерла мая адзіная сястрычка Люда, студэнтка педінстытута, а я апынуўся ў туберкулёзнай лякарні пад Масквою, у Ступіна, адкуль мяне вывезлі ў Алкіна, пад Уфу. Там працавала доктаркай суседка крычаўская, яна і павезла. Гэтакі працяг у нашай хаце мела Вялікая Айчынная вайна. На хату замок павесілі. Адна каза засталася ў хлевушку. Карміць і даіць яе прыходзілі з бальніцы то маці, то бацька.

Яшчэ вышэй па вуліцы падняўся — у нос дало дзяркатым пячным водарам, нібы з-пад попелу дзядзінца: ён, крычаўскі, тут жа, на Ганчароўцы. Стаяў новы плот, за ім знаёмая, з нізкімі вокнамі, хата. Пачуў і водар заквашанай гліны, і пах гарачага воску.

Трымаючы ў руцэ вядро, на двары стаяла старая, глядзела на мяне. Не пазнала і пайшла ў хату. Наважыўся і я далей ісці. Але яна зноў з хаты выйшла. І я спытаў:

— Стары памёр?

Ведаў, што Воранаў памёр, таму гэтак і спытаў.

— Даўно, — адказала яна, не здзівіўшыся мае цікаўнасці. Хто ў нас не ведае старога майстра?

Ішоў далей і думаў: чаму не спытаў у старой — можа, у хаце застаўся хоць адзін бажок? А раптам? Яшчэ б хоць раз пабачыць? Стары як рабіў з гліны посуд, ляпіў з той самай гліны і птушак, свістулі дзецям, і бажкоў — Ісус Хрыстос на крыжы. Па пятніцах вырабы абпальваў у горне, па суботах бажкоў насіў у царкву і асвячаў, а ў нядзелю прадаваў на базары. Як наробіць бажкоў шмат, клікаў у дом бацюшку. Аднойчы бацька паслаў мяне да старога з грашыма за помнік, які той ставіў на магіле сястры. Калі я пераступіў парог, за сталом сядзелі ганчар і бацюшка, пілі гарэлку і закусвалі. Бацюшка казаў: «Не ляпі Бога з гліны, Бог — Дух Святы». Я грошы аддаў і хутчэй за парог. Але як выходзіў у сенцы, зноў пачуў, быццам і да мяне, наўздагон: «Не ляпі Бога з гліны...»

Чаму бацюшка гэтак казаў? А таму, што гліняныя бажкі былі нетрывалыя і шмат бою ад іх ляжала ў двары ганчара пад плотам. Тым не менш, стары бажкоў ляпіў, а бацюшка іх асвячаў.

Пасля вайны ганчар вылепіў і галаву Сталіна. Яна стаяла ў яго на стале. Кот, зброда, соваўся па місах і зваліў галаву са стала. Яна скацілася на падлогу і рассыпалася. Бацюшка прыйшоў асвячаць бажкоў і ўбачыў каля парога пад мятлою чарапкі. Падняў адзін-другі, агледзеў і паўшчуваў:

— Я ж табе казаў, каб не ляпіў Бога з гліны!..

Няма ўжо ні ганчара Воранава, ні бацюшкі. А людзі гэта памятаюць. І я памятаю. І кажу, як той бацюшка, сабе і іншым:

— Не трэба ляпіць Бога з гліны. Бог — Дух Святы.

**ЧУХАЮ ПАТЫЛІЦУ:** дзе розніца паміж пісьменнікам еўрапейскім і нашым, які жадае выглядаць пад еўрапейца? Паміж нармальным нашым і нармальным іхнім? Хоць у сэнсе зваротнага погляду — на сябе, у сэнсе меры самаіроніі і самаўпэўненасці? І ці можа, скажам, наш інтэлігент-народнік спакойна выслухаць іронію калегі ці суседа, пасля чаго не глядзець на яго як на ворага?

Прыгадваю Парыж, дварок музея Радэна і на дварку — скульптуру Анарэ дэ Бальзака ў натуральны рост. Стаіць геній пасярод Еўропы зусім голенькі, пазеляненелы на вятрах і дажджах, галава, нібы ў ільва, магутная і прыгожая, а ніжэй — такі нехлямяжы, акрамя жывата — ніякай асалоды. Тлушчык бугрыцца, вісіць, яечкі пазеляненелыя ў мох хаваюцца.

Не сам жа Анарэ ляпіў свой гэты вобраз? Так, ляпіў Радэн. Але ж з любоўю да генія, і таму яго іронія прачытваецца не іначай, як самаіронія. Тут яна раўназначная любові.

Хоць у той жа час і скажаш, усміхнуўшыся: фу ты, шчырасць!

Цяпер — у наш дварок заглянем, у скверык.

Перад людскім натоўпам стаяць пісьменнік, палітык і паэт. Кажа палітык, паказваючы на пісьменніка: вось — наш апостал. А потым выступае пісьменнік і паказвае на палітыка: гэта — наш апостал. А паэта-песенніка ніхто апосталам не называе. Ён насуплена маўчыць, звесіўшы галаў, хвалюецца і набірае смеласці: скажу... скажу сам, што я — апостал, калі гэта зараз не скажа з натоўпу студэнтачка, фалькларыстка ці настаўніца.

І мы пад сівізной стаім. Слухаем і думаем: яны ж усім патрэбныя ў сваіх звычайных вопратках, для моцы духу і моцы слова — і сумленны палітык, і выдатны пісьменнік, і добры прамоўца і паэт-песеннік, — але навошта ім навешваць адно на аднаго, па-сяброўску, белыя апостальскія вопраткі? Хіба апосталаў не выбіраў сам Ісус Хрыстос?

Нам мала яго дванаццаці апосталаў?

Хто сёння дарогу жыцця пакажа больш годную, як яе паказаў хоць і апостал Павел: «Дык стойце ў волі, якую даў нам Хрыстос, і не падпадайце ізноў пад ярмо рабства».

Ці, можа, настаў час саміх сябе прызначаць у апосталы?

Пражылі XX стагоддзе. Колькі было ў ім самазваных апосталаў! Ці застаўся хоць адзін? Шмат хто, вядома, падымаўся да вышыняў духу і думкі. Але хто хоць аднойчы не апусціўся да хлусні, помсты ці страху?

І адкуль у сыноў сціплага народа гэтае самагубнае жаданне — прымерваць на сябе апостальскія лаўры і церні? Хіба не ад бальшавікоў, якія жыць без Бога маглі, а жыць без бажкоў не навучыліся?

Парадокс?

Учорашні — гэта я — бальшавік здзьмухвае папялок бальшавізму з тых, хто — хай двое з траіх — былі яго шчырымі апанентамі?

Але хіба мы не жывём у краіне парадоксаў?

Хіба тым самым папялком не ўсе мы прысыпаныя?

**НАРОДНЫ ПАЭТ:**

— Мая Галгофа!..

Народны дэпутат парламента:

— Мая Галгофа!..

Маленькі чалавек, тручы каравым пальцам вока:

— Спадскулля вы, пакутнічкі? Усе — за мяне? Гля-а!.. Яшчэ адзін?.. Прымерыўся да Крыжа, да Хрыста... Га, бедалага! Спяшаў, аж не паспеў шырынку зашпіліць...

А гусі на рацэ:

— Гал-л... Гал-л... Гал-л...

Таксама на Галгофу?..

**А МОЖА,** пасля эпохі звяржэння Бога, для нас і гэта ўсё ж — вяртанне да Яго?

Дык... госпаду памолімся?

Катораму?

Таму, што справа, ці таму, што злева?

**НІКОМУ Я НЕ СУДДЗЯ.** І нават іранічным быць баюся. Ведаю: усё, што мне не падабаецца ў іншых, ёсць і ўва мне. І калі за тое, што мне не падабаецца ў іншых, нехта задумае іх, іншых, караць, то хай ён пакарае найперш мяне.

Мой суд — гэта толькі самасуд.

Мая іронія — самаіронія.

**ПІШУ І САМ У СЯБЕ ПЫТАЮСЯ:** што за жанр?

Казаў, што дзённічак, а цяпер хачу сказаць, што і не дзённічак, і не споведзь, і не ўспамін, і не... ды ўсё гэтае тут, у маіх старонках, ёсць, і быць павінна. І гэтае, і яшчэ штосьці. А што яно — штосьці? Што гэта будзе? Як сябе і сваё слова прадбачыць?

Вунь за акном конь каля плота хрумстае саломку на сакавіцкае прataліне, у салодкай млосці вочы то заплюшчыць, то расплюшчыць, а ў вачах — нявымытыя зімовыя слёзы.

Па нагах, прылізваючы калматую поўсць, ад капытоў падымаецца вільготны прыпарачак. Ён, цёплы, варушыцца і на холцы. Верабейка скача па конскай спіне, прыгрэтай ласкавым сонейкам, выдзёўбвае з падшэрстку зімовую каросту. Конік хрумстае, не шавелячы ні вухам, ні хвастом, каб птушачку не спужнуць, — хай і да костачак дадзяўбецца. Ці мала і ў гэтым радасці?

А там, угары, над лапінкай жыцця зямнога, блакіт вясны — таксама мацярык...

А тут...

А там...

А тут — бацька. Стаіць у доўгім паліто наросхрыст, грудзі выставіў, і без шапкі. Вушанку з аблезлае сабачыны ў руках камечыць. Глядзіць на каня, на вераб'я, жмурыцца, як і той конь, ад цёплай млосці і не варушыцца таксама, каб не спужнуць і птушачку, і радасць конскую, і сонейка вясновае, яшчэ нясмелае, і штосьці зусім сваё, патаемнае.

Тут — думка ёсць?

А тады і думка, як душа, распагодзіцца. Думка бывае з пыхаю, брыдкаю душы хрышчонай. Дзе пір душы — там вір жыцця і вечнасці. А дзе піруе думка — што там бывае? Там ці мала зла?

У душы, вядома, пакутаў бездань. Але і святло, і цяпло. Яна — пакутніца. Але і светач.

Ды ўсё ж, прадбачыць як — сябе, сваё?..

І тут...

І там...

Тут — бачыць, каб прадбачыць. Бачыць сваё поле, каб вымераць яго дарожным кіем. А сустрэнецца на дарозе сметнік — яго таксама заўважыць, бо і на ім ёсць жыццядайныя зярняты птушачкам.

Тут — зямля...

Там — неба...

Кій спадарожніка пагруквае і тут і... там.

**А ЎСЁ Ж, ПРАДБАЧЫЦЬ СЯБЕ, СВАЁ — ЯК?**

Вядомы філосаф сярэднявечча Мантэнь казаў, што свае паводзіны прадбачыць не заўсёды, бо часта мяняе погляды на людзей, на рэчы, на з'явы. Ён жыў ва ўмовах не беларускага, а італьянскага рэнесансу, дзе сылгаць было нашмат цяжэй, як у нас, а сказаць праўду лягчэй. Але і ў нас ад любой цёткі можна пачуць: «Я ж раней думала, што ён чалавек...» Пасля таго, як чалавек, пра якога яна думала добра, зрабіў брыдкае, думаць пра яго яна пачала іначай — як пра брыдоту.

І ў цётках жыве Мантэнь?

А ўчора я зайшоў у рэдакцыю газеты. Там — Веранінаў. Ведаю яго даўно. Інвалід вайны, быў шчыры райкомавец, ідэйна падкаваны ў вышэйшай партшколе, пасля, як наслухаўся і начытаўся пра злачынствы ў партыі, якія раней ад усіх хаваліся, з партыі выйшаў. І не вярнуўся. Дык вось — адчыняюцца дзверы, заходзіць да нас стары хірург. Убачыў былога калегу па партыі — накінуўся:

— Пярэварацень ты!..

Той разумее, што разважлівым словам заўзятага службоўцу не спыніць, і маўчыць. А хірург і выдаў, у дадатак да ранейшага:

— Пазваню ў Магілёў сыну, каб цябе з тваімі нагамі больш не прымаў і не лячыў.

Яго сын, таксама хірург, працуе ў абласной бальніцы, куды на кансультацыі ездзіць Веранінаў. І вось за тое, што ён выйшаў з партыі, стары хірург будзе званіць сыну-хірургу, каб не лячыў ветэрана.

Я спытаў у хірурга:

— А як жа з клятвай Гіпакрата?..

І падумаў: вось дзе парэварацень з пярэваратняў. Свае прафесіі, клятве лекара, якая стаіць на скрыжалях гуманізму і маралі, ён гатовы здрадзіць, абы адпомсціць чалавеку, які адышоў ад палітыкі, убачыўшы яе хлуслівасць. Гэта ўжо гістарычны экспанат.

А Веранінаў?

А ў яго, як у цётак, жыццё нармальнае — па Мантэню.

Жыццё заўсёды па Мантэню. Калі яго не заганяць у казарму, не вымяраць і не судзіць параграфамі казарменнага статута.

## Хобі не зусім рамантычнага Дзімы



На фоне выставак вялізных жывёл і насякомых, гэтая ўвогуле можа згубіцца, бо плошча, якую яна займае, — дзве паліцы ў кніжнай шафе.

Тым не менш, яе аўтар, адзінаццацікласнік Рэчыцкай СШ №6 Дзіма Смольскі, атрымаў прапанову ад адміністрацыі керамічнага завода распрацаваць узоры кубкаў, попельніц. Хлопчык з дзяцінства захоплены лепкай з пластыліну і гліны. Пераважна гэта фігуркі жывёл: у міні-заапарку Дзімы налічваецца больш за семдзесят істот. Сярод іх як прывычныя кошкі, коні, трусы, так і зебры, кракадзілы, якіх хлопчык наяве не бачыў. Затое вылепіць дзіка або лісіцу для маладога майстра цяжкасцей не ўяўляе: з гэтымі жывёламі сустрэчы адбываліся не аднойчы, бо што такое паляванне, Дзіма ведае добра. Хлопчык спадзяецца, што выстаўка ў гарадской бібліятэцы — не апошняя. Пасля заканчэння школы малады чалавек мяркуе атрымаць адукацыю па спецыяльнасці «мастацкае ліццё». Аднак будучыня не абмяжоўваецца праяўленнем сваіх здольнасцей толькі ў адной галіне. Дзіма марыць быць гаспадаром, мець сваю ферму. Пагадзіцеся, мара далёкая ад рамантычнай узнёсласці і дастойная павагі.

**Паліна КРЫЛОВА.**

**Фота Леаніда ДВОРНІКА.**



Мінскі міжраённы прыродаахоўны пракурор, старшы саветнік юстыцыі Васіль ДЗЕМІДОВІЧ:

# «...І Я ПРЫНЯЎ РАШЭННЕ: УЗБУДЗІЎ КРЫМІНАЛЬНУЮ СПРАВУ»

***КАЛІ ГАВАРЫЦЬ афіцыйнай мовай, то сутнасць работы прыродаахоўнай пракуратуры заключаецца ў тым, каб процістаяць любым спробам і праявам парушэнняў заканадаўства ў экалагічнай сферы. А як праяўляюцца, вобразна кажучы, фізічныя вынікі гэтай дзейнасці?***

***Напрыклад, за мінулы год Мінская міжраённая прыродаахоўная пракуратура падрыхтавала па выніках праверак больш як 70 актаў пракурорскага рэагавання. Прадпрыемствы, арганізацыі і асобныя грамадзяне добраахвотна кампенсавалі дзяржаве экалагічны ўрон на суму 75,4 мільёна рублёў. Агульная сума кампенсацый у выніку іскаў у народны і гаспадарчы суды склала больш як 150 мільёнаў. Расследавана сем крымінальных спраў па розных правапарушэннях прыродаахоўнага заканадаўства.***

***Гэты ж год пачаўся са штрафных іскаў куды больш важкіх, калі колькасць нулёў у прад'яўленых санкцыях значна ўзрасла. Гэтая акалічнасць і паслужыла штуршком для пачатку размовы з В. ДЗЕМІДОВІЧАМ:***

**— Васіль Мікалаевіч, хто ж гэта выйшаў у «лідэры» сярод парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства?**

— Размова ідзе аб Мінскім трактарным заводзе, якому пракуратура прад'явіла іск на суму 3 мільярды рублёў. Гэту справу мы выйгралі.

У кароткім пераказе яе сутнасць наступная. Трактарабудаўнікі вывозяць на палігоны Мінскага раёна адходы вытворчасці на часовае размяшчэнне. Па закону, як вядома, кожнае прадпрыемства павінна за гэта плаціць. Трактарны ж завод увесь 1995 год плаціць упарта адмаўляўся. Вось пракуратура і вымушана была звярнуцца ў Мінскі абласны гаспадарчы суд з адпаведным іскам, з патрабаваннем эканамічных санкцый. Суд прыняў рашэнне аб спагнанні з завода трох мільярдаў рублёў.

**— Многія добрапрыстойныя спадары-начальнікі ўсё яшчэ быццам жывуць у «тыя часы», калі яны самі і іх заводы былі «грандамі» і «кітамі» вытворчасці, якім даруюцца ўсе экалагічныя парушэнні.**

— Падобная псіхалогія праяўляецца даволі часта. Хоць даўно працуе новае экалагічнае заканадаўства, эканамічны механізм прыродакарыстання, калі за ўсе шчодрасці прыроды трэба плаціць, знаходзяцца такія, хто ну ніяк не можа прымяніць яго да сябе самога!

Узяць кіраўнікоў таго ж Мінскага трактарнага: не хочаце шмат плаціць за вываз прамысловых адходаў — дык укараняйце безадходныя тэхналогіі. Імператыў жорсткі, але ім кіруюцца ва ўсім свеце. Цяжка паверыць, што калектыў, які выпускае складаную тэхніку, не ў стане асіліць сучасныя тэхналогіі вытворчасці.

У гэтай праблемы прагледжваецца яшчэ адзін бок. Калі «генералаў» дзяржаўнай вытворчасці цяжка адвучыць ад старых прывычак, то «новыя» вытворцы — прадпрымальнікі і бізнесмены іншы раз наогул «не разумеюць», што трэба вучыцца паважаць законы. Некаторыя з іх разважаюць прыкладна так: каб лягчэй атрымаць вялікія грошы, то толькі і трэба зрабіць, што вывезці з якога-небудзь завода таксічныя адходы і утылізаваць іх па прасцейшай тэхналогіі. Такім «бізнесам» занялася і фірма «Будкапрамонт» на чале з дырэктарам Ю. Буйвідовічам.

Заключыўшы дагаворы з буйнейшымі «вытворцамі» таксічных прамысловых адходаў, напрыклад, Мінскім аўтазаводам, ВА «Атлант» і іншымі, фірма разгарнула шырокую дзейнасць, пачала дабаўляць шкодныя адходы ў раствор пры вытворчасці будматэрыялаў. З іх узводзіліся катэджы, жылыя дамы.

Фірма груба парушыла патрабаванні артыкула 10 Закона «Аб адходах вытворчасці і спажывання»: ліцэнзію на гэты від дзейнасці яна не атрымала, яе вытворчыя магутнасці дзяржаўную экалагічную экспертызу не прайшлі. Пракуратурай выдадзена прадпісанне аб прыпыненні дзейнасці па прыёму і перапрацоўцы таксічных адходаў. У падатковую інспекцыю накіравана патрабаванне аб правядзенні праверкі і прыцягненні дырэктара «Будкапрамонту» да адміністрацыйнай адказнасці, спагнанні з фірмы штрафных грашовых сум. У выніку ліцэнзію ў яе адабралі, налажылі эканамічныя санкцыі ў памеры 2 мільярдаў рублёў.

**— Не дзіўна, што Генеральны пракурор рэспублікі В. Капітан уваходзіць у Вярхоўны Савет з заканадаўчай ініцыятывай — уносіць прапанову аб увядзенні адказнасці па крымінальнаму артыкулу за парушэнні пры абыходжанні з адходамі. Усю небяспечнасць сітуацыі, думаецца, найбольш яскрава дэманструе выпадак з «нічыйнымі» ядамі ў бочках, якія амаль тры гады правальваліся каля рэчкі Начы ў Клецкім раёне. У друку пра гэта паведамлялася даволі цьмяна. Можа, Васіль Мікалаевіч, разгледзім механізм той «ядавітай здзелкі» больш падрабязна?**

— Думаю, што дадзеная гісторыя вартая таго. Усё пачалося з таго, што ў 1992 годзе дырэктар МП, камерсант Н. (прозвішча апускаем, бо пакуль ідзе следства), пад выглядам бяскрыўднага ацэтону прапанаваў Сіняўскай мэблевай фабрыцы Клецкага раёна 36 тон дыхлорэтану. Гэта, заўважу, вельмі небяспечнае ядавітае рэчыва, якое прымянялася ў ВПК і ў ваенных мэтах. У каго і як Н. яго браў, пакуль невядома, аднак следства пакажа.

Адказныя службовыя асобы гэтай фабрыкі купляюць «ацэтон» на суму каля двух мільёнаў рублёў — на той час вельмі ўнушальная здзелка. Грошы камерсант абнālічыў праз... фермерскія гаспадаркі. Прычым, заўважце, службовыя асобы і не думаюць выконваць Палажэнне аб прыёмцы прадукцыі — не запатрабавалі ад Н. ні сертыфіката, ні якаснага пасведчання. Калі пусцілі рэчыва ў работу, то заўважылі, што гэта далёка не ацэтон. Таму і сплавілі яго Маладзечанскай мэблевай фабрыцы. І там у сваю чаргу прымаюць ядавіты «падарунак» без усякіх суправаджальных дакументаў. Калі ж пачалі выкарыстоўваць куплены «растваральнік», то адна з работніц атрымала моцнае атручэнне і трапіла ў бальніцу.

Пасля гэтага ўсё пачало раскручвацца ў адваротным парадку: з Маладзечна ядавітае «дабро» вяртаюць на Сіняўскую фабрыку, а тая — камерсанту Н. Апошні ж, не доўга думаючы, вывозіць атруту на палі калгаса «Камунар», непадалёк ад вёскі Галынка, і звальвае бочкі ў пойме ракі. Што ў выніку магло атрымацца, разумее кожны: металічныя бочкі маюць «прывычку» ржавець і працякаць. Тым больш, што іх ніхто не ахоўваў.

Сёння, праўда, тыя бочкі ў поўным сэнсе ўжо арыштаваны, перавезены на зачынены склад пад ахову.

**— Усё ж, Васіль Мікалаевіч, адразу цяжка паверыць у дрымучае глупства спецыялістаў фабрыкі, бязрукасць мясцовых службовых асоб і раённых улад. Ужо цяпер бачу, што суд, які будзе разбіраць гэтую справу, без так званых прыватных пастаноў у іх адрас не абыдзецца...**

— У чымсьці я тут з вамі згодны і не згодны. Глядзіце, усе мясцовыя адказныя асобы цяпер робяць наіўны выгляд: маўляў, мы не ведалі, што гэта ядавіты дыхлорэтан. А на бочках, між тым, маецца выразная маркіроўка: «ДХЭ». І гэта незразумела? Тады трэба было б запрасіць «замежных» спецыялістаў — тыя ўсё і растлумачылі б нашым «наіўным прастакам».

У справе маюцца прыметы крадзяжу (калі Н. не прадставіць дакументаў, дзе купіў «прадукцыю», то атрымліваецца — украў?), факты яўных парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства. Я з поўнай адказнасцю прыняў рашэнне: узбудзіць крымінальную справу па прыметах злачынства, прадугледжанага артыкулам 219 Крымінальнага кодэкса, стварыў следчую брыгаду ў саставе спецыяліста нашай пракуратуры і работнікаў сістэмы Міністэрства ўнутраных спраў.

**— Цяжка асэнсоўваць факты таго, як мы ў нашым грамадстве, прабачце, гадзім самі сабе. А трэба ж яшчэ ўлічыць, што і з Захаду цягнуць у Беларусь усялякія адходы, іншы раз даволі небяспечныя. Ад гэтага робіцца цяжэй удвая.**

— Калі проста наракаць, то гэта мала чым дапаможа, неабходна з негатыўнай тэндэнцыяй і змагацца — прафесіянальна і паслядоўна. Хацела, напрыклад, адна мінская фірма ў свой час увезці з Аўстрыі ў Беларусь сухое малако, забруджанае радыенуклідамі, каб у Гомелі перапрацаваць яго ў казеін. Аднак ходу гэтай камбінацыі ў выніку ў рэспубліцы не далі.

У 1994—95 гадах у пракуратуры было 5-6 падобных спраў, калі з ФРГ пад выглядам плёнкі, будматэрыялаў імкнуліся завезці да нас далёка не бяскрыўдныя палімерныя адходы. Усіх камерсантаў — удзельнікаў тых камбінацый мы тады прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці. Выдалі і прадпісанні аб вывазе адходаў назад за межы Беларусі. Гандляры адходамі гэтых распараджэнняў тады не выканалі. Прыйшлося, зразумела, звяртацца ў гаспадарчы суд...

Вось і праявіліся праблемы, калі парушаецца парадак абыходжання з адходамі. Належнага іх уліку, як і ўліку па відах, у рэспубліцы няма, патрабаванні справаздачнасці ў гэтай справе мала хто выконвае. Чаго ж здзіўляцца, калі пры такім «парадку» прадпрыемствы часта вывозяць адходы куды ўздумаецца, утвараючы «дзікія» звалкі, толькі не туды, куды належыць.

Пакуль назіраецца дзіўны парадокс: Закон «Аб адходах вытворчасці і спажывання» даўно дзейнічае, а вось адказнасць за парушэнні прававых нормаў заканадаўствам не ўстаноўлена.

Напомню, што яшчэ былы Генеральны пракурор рэспублікі В. Шаладонаў у парадку заканадаўчай ініцыятывы ўносіў у Вярхоўны Савет папярэдняга склікання пэўныя прапановы па змяненню Крымінальнага кодэкса і Кодэкса па адміністрацыйных правапарушэннях. Прапановы ў Камісіі па заканадаўству ВС быццам і абмяркоўваліся, але ў стылі «як мокрае гарыць». Словам, справу зацягнулі, а потым, як вядома, пачаліся славутыя палітычныя баталіі — і стала не да паляпшэння законаў.

**— А ў выніку сёння мы маем тое, што маем. Няма дакладнай нормы адказнасці за парушэнні закона — дык навошта тады і зводзіць з ім свае дзеянні? Прыведзены ўжо факт «сяброўства» кіраўнікоў мэблевай фабрыкі з камерсантам Н. і яго «бліскучыя» вынікі яскрава гэтую выснову пацвярджаюць.**

**Вось адкуль растуць і прававы нігілізм, і антыэканамічныя «глупствы», ці тое, што за гэтымі вызначэннямі хаваецца. Як жа даць хоць нейкую раду?**

— З уласнага вопыту зраблю і сваю выснову: працуючы ў цесным кантакце з прыродаахоўнымі органамі і іншымі дзяржаўнымі структурамі, пераканаўся, што прававая непісьменнасць многіх спецыялістаў-гаспадарнікаў і кіраўнікоў любога ўзроўню не дае ім магчымасці працаваць па-сапраўднаму прафесіянальна, прымаць кваліфікаваныя рашэнні.

Прыклады ўжо прыводзіліся. І датычыцца гэта не толькі выканання патрабаванняў экалагічнага заканадаўства — такі стан законапаслушэнства ў грамадстве ўвогуле. Грашаць гэтым, між іншым, і вышэйшыя асобы ў дзяржаве.

Дапусцім толькі на хвіліну: калі ў нас усталюецца агульны прынцып, што закон — гэта не вяршэнства над усім астатнім, а на першым месцы — славутая мэтазгоднасць, то тады і не варта, калі можна так сказаць, «чытаць лекцыі» асобным грамадзянам і грамадству ў цэлым аб неабходнасці законапаслухмянасці. Трэба памятаць, што ў нашай Канстытуцыі абвешчаны прынцып прававой дзяржавы, якім прадугледжваецца вяршэнства самой Канстытуцыі і законаў.

І гэтым усё сказана. Па гэтаму прынцыпу нам і жыць.

**Гутарку правёў Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**



Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.

***РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...***

# НАБЫЦЬ ЧАТЫРОХНОГАГА СЯБРА

***Мала знойдзецца людзей, якім не хацелася б завесці чатырохногага сябра. Хто з нас у дзяцінстве не прасіў бацькоў прынесці ў дом ката ці сабаку? Некаторым шанцавала, а ў іншых мара стала рэальнасцю толькі тады, калі яны выраслі.***

І ўсё ж калі вы рашылі завесці сабе калматага сябра, трэба спачатку накапіць грошай. Згодна з вашым густам вы можаце набыць, напрыклад, шчаня баксёра без радаслоўнай за 50 $, ротвейлера — за 90—110 $, нямецкай аўчаркі з радаслоўнай — за 50—80 $, французскага бульдога з цудоўнай радаслоўнай, які мае ў родзе чэмпіёнаў, — за 70—80 $, добермана — 150 $. Вясёлы кокер-спаніэль упрыгожыць ваш дом, калі вы знойдзеце «усяго» 100 $. І ўжо зусім смешнай на агульным фоне выглядае цана рызеншнаўцэра — 30 $.

Сіямскае кацяня каштуе каля 150 тысяч рублёў. А вось пушысты персідскі кот — сапраўды раскоша, таму што абыдзецца вам у 100—200 $. Праўда, калі заказаць яго за некалькі месяцаў да з'яўлення на свет, то можна набыць і за 50 $.

Але пакупкай жывёліны справа не заканчваецца. Сабачкі і коцікі любяць паесці, і паесці смачна: на «ліверку» яны нават не зірнуць. У сталічным магазіне «Прырода» можна задаволіць любы сабача-кашэчы густ.

Самы разнастайны корм для сабак каштуе ад 15 да 54 тысяч рублёў. Коціка ж можна накарміць (увага!) мясным кактэйлем для катоў, які складаецца з самых розных кампанентаў: ялавічыны, курацiны, сыру, — за 127 тыс. руб.; мяса, рыбы — за 49 тыс. руб.; мяса труса, ялавічыны — за 49 тыс. руб.; ласося, хека — 49 тыс. руб.

Падмацаваць здароўе сваёй жывёліны можна вітамінамі па 500 і 700 рублёў за штуку або набыць лякарства ад глістоў па 3.500—18.900 рублёў.

Гэта яшчэ не ўсё: міска для яды абыдзецца ў 14.600 руб., шчотка для сабак — 24 тыс. руб., ашыйнік — 17—23 тыс. руб., павадок — 47—140 тыс. руб. Міжволі абрадуешся, калі жывёла не любіць мыцца, таму што шампуні для іх каштуюць ад 18 да 84 тысяч рублёў.

Ёсць людзі, якія аддаюць перавагу не чатырохногім сябрам, а птушкам. Яно і на самай справе танней будзе: хвалістыя папугаі ацэньваюцца ў 42—70 тыс. руб., карэла — у 350 тыс. руб., а канарэйка ўсяго — у 28 тыс. руб. Цэны на клеткі для іх вагаюцца ад 84 да 140 тыс. руб. У клетку можна змясціць для іх паільнік за 12 тыс. руб. і званочак за 6 тыс. руб. Ды і корм для птушак больш танны: за кілаграм яго для папугаяў трэба выкласці усяго 16 тыс. рублёў, падкарміць жа вітамінамі можна па 12—15 тыс. руб. і рыбіным тлушчам за 7 тыс. руб.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

# ЯК ВЫРАТАВАЦЬ ХВОРУЮ ЖЫВЁЛУ?

З лютага ў сталіцы перастала існаваць адзіная гарадская ветэрынарная аптэка, размешчаная па вул. Б. Хмяльніцкага, 4, што належала дзяржаўнаму прадпрыемству «Зоаветзабеспячэнне». Аптэка арандавала ў дзяржавы гэтае памяшканне больш як трыццаць гадоў. На сённяшні дзень яна размясцілася на 2-й вул. Шчорса, 4, што цэнтрам горада ніяк не назавеш. Таму справядлівае пытанне: «Які ж далейшы лёс свабоднага памяшкання і як будзе вырашацца пытанне з забеспячэннем г. Мінска і Мінскага раёна неабходнымі лекавымі ветэрынарнымі прэпаратамі?»

У гарвыканкоме растлумачылі, што з мэтай паляпшэння забеспячэння сталіцы лекавымі сродкамі для жывёл праводзіўся конкурс паміж фірмамі, у выніку якога права арэнды памяшкання на 5 гадоў без права перапрафілявання атрымаў Гандлёвы дом «Джэм-Камерс». Мяркуецца, што новая аптэка адкрыецца пасля рэканструкцыі ўжо ў красавіку.

А на сённяшні дзень лекі можна набыць не толькі ў «Зоаветзабеспечэнні», але і на гарадскіх ветэрынарных станцыях па барацьбе з хваробамі жывёл.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

# МАЛУЮ ПРЫВАТЫЗАЦЫЮ РУХАЮЦЬ... ШКОЛЬНІКІ

Калі быць больш дакладным, то Міжнародная фінансавая карпарацыя разам з аддзелам па кіраванню дзяржаўнай уласнасцю і прыватызацыі Баранавіцкага гарадскога выканаўчага камітэта правяла ў Баранавічах другі аўкцыён па продажы аб'ектаў камунальнай уласнасці. Былі прададзены два аб'екты і права арэнды памяшкання. Краму «Камісійныя тавары для школьнікаў» у невялікім асобным будынку ў цэнтры горада па вуліцы Савецкай набыў мясцовы прадпрымальнік за 250 мільёнаў рублёў.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# Лёс беларуса ў інтэр'еры XX стагоддзя

**Яму семдзесят сёмы. Але сухаваты, падцягнуты, з жывой яшчэ рухавасцю Мікалай Макаравіч Пятрэнка выглядае маладзей за свае гады. Вось толькі вочы пачалі падводзіць. Даводзіцца карыстацца лупай. Але з-за гэтага палёгкі сабе не дае, працягвае настойліва працаваць. Перакладае, піша, шмат сустракаецца з людзьмі. Цяперашняе яго крэда: не паддавацца гадам, не даваць сабе палёгкі — бо апошняе будзе прамым шляхам да затухання. Мікалай Макаравіч — ганаровы грамадзянін Полацка. А я дадаў бы: «дзеючы грамадзянін». І не толькі Полацка, але ўсёй Беларусі, якой ён служыў і служыць ад маладых сваіх гадоў. Служыць у розных сферах, але заўсёды шчыра і аддана.**

## ПЕДАГОГ

Яго педагагічны стаж вылічаецца — цяжка паверыць — больш чым пяццю дзесяткамі гадоў. Толькі Полацкаму педагагічнаму вучылішчу аддадзена 33 гады. Афіцыйна выйшаўшы на пенсію ў 1979-м, ён яшчэ трынаццаць гадоў аддаваў свае веды і вопыт будучым настаўнікам пачатковых класаў. Напісаў і выдаў кнігу па вывучэнню беларускай мовы, пераклаў на беларускую падручнік па матэматыцы для педагагічных вучылішчаў. Перакладзены яшчэ два падручнікі, таксама для вучылішчаў: па методыцы музычнага выхавання ў дашкольных установах і па музычнаму выхаванню ў пачатковых класах. Але дарагоўля, якая запанавала ў друкарнях, перакрыла дарогу гэтым падручнікам да педагогаў.

У 1946-м годзе, пасля дэмабілізацыі, звязаў Мікалай Макаравіч свой лёс менавіта з педагагічнымі вучылішчамі. Сам ён так расказвае пра той час:

«Вайна не тое што прарэдзіла — амаль што поўнасцю знішчыла настаўніцтва на Беларусі. Гінулі настаўнікі на франтах, гінулі ў партызанскіх атрадах, мэтанакіравана выбівалі іх акупанты ды ўсе тыя, хто хацеў скарыць Беларусь. Таму рэспубліка пасля вызвалення засталася амаль без настаўнікаў. Прыязджаеш у якую сельскую школу, а там выкладчыкі — інвалід-франтавік ды пару дзяўчатак, што самі паспелі закончыць класаў дзевяць.

Вось таму і было створана каля трыццаці педагагічных вучылішчаў. Я пачынаў у Петрыкаве, на Палессі, потым працаваў у Лепельскім вучылішчы, потым быў Полацк. У сярэдзіне пяцідзесятых, калі кадраў для пачатковых школ было падрыхтавана дастаткова, узялі курс на скарачэнне педагагічных вучылішчаў. Быў прыняты тэзіс, што настаўнікаў пачатковых класаў трэба рыхтаваць на спецыяльных факультэтах педвузаў. Але дaскарачаліся да таго, што неўзабаве давялося аднаўляць некаторыя вучылішчы. Справа ў тым, што любы вопытны загадчык рана ахвотней бярэ на работу настаўнікам пачатковых класаў менавіта выпускнікоў вучылішчаў, а не інстытутаў. У апошніх тэарэтычная падрыхтоўка, зразумела, лепшая, але затое практыка... Выпускнікі вучылішча ўмеюць ужо даволі паспяхова працаваць з дзецьмі, займацца выхаваўчай работай. Ды і едуць яны ахвотна ў тую школу, куды накіруюць, нават калі гэта самая глыбінка. А вось выпускнік інстытута ўжо стараецца застацца хаця б у райцэнтры».

Цяжка падлічыць, колькі за гэтыя дзесяцігоддзі падрыхтаваў Мікалай Макаравіч настаўнікаў. І на Палессі, і асабліва на Віцебшчыне цяжка знайсці школу, дзе б не працавалі яго выхаванцы. І ўсё жыццё выступаў Пятрэнка за захаванне беларускай мовы. Змагаўся з бюракратамі ў той час, калі родную мову дружна хавалі, не раз атрымліваў ярлык нацыяналіста, але працягваў карпатлівую і настойлівую работу. Помніцца мне яго артыкул у васьмідзесятых у «ЛіМе». З абурэннем, з душэўным болем пісаў педагог аб тым, што чыноўнікі з Міністэрства адукацыі падрыхтавалі паперу, у якой загадваюць вывучаць у першых класах беларускіх школ беларускую мову ў пазаўрочны час і па 15 хвілін на тыдзень. Менавіта тады, у тыя гады беларуская грамадскасць змагла пачаць на поўны голас размову аб захаванні беларускай мовы, аб нацыянальным адраджэнні. І голас Мікалая Макаравіча не губляецца. Ён не толькі выступае з артыкуламі, не толькі вядзе немалую работу па беларусізацыі выкладання ў родным вучылішчы, ён становіцца адным з арганізатараў Таварыства беларускай мовы ў Полацку, выступае ў працоўных калектывах, выкладае на курсах беларускай мовы.

«Як бы сёння ні ацэньвалі гэтыя ўжо мінулыя гады, але зроблена тады было нямала. Магчыма, недзе трэба было дзейнічаць мякчэй, не столькі прымусам, колькі агітацыяй і прапагандай, але рухаліся мы ў правільным напрамку. Сёння трэба з горыччу прызнаць, што ў справе беларусізацыі, адраджэння нацыянальнай культуры мы адкінуты назад ці не далей нават, чым былі перад пачаткам гэтай хвалі.

Мяне заўсёды абурала: педагагічныя вучылішчы рыхтуюць настаўнікаў найперш для вясковых школ, а яны ж нават непрыхільнікамі прызнаваліся ўсё яшчэ беларускімі. А выкладанне ў педвучылішчах было па-руску, падручнікі друкаваліся для вучылішчаў у Маскве. Так, дарэчы, і няма гэтых падручнікаў па-беларуску. У нас, у Полацку, у той час большасць выкладчыкаў усё-такі перайшла на беларускую мову. Спрацоўваў і фактар аплаты — 10-працэнтная надбаўка. Цяпер усё павярнулася назад.

Што сімптаматычна, такі рэзкі паварот некаторых чыноўнікаў, ад якіх залежыць народная адукацыя, абурае не толькі актывістаў адраджэння. У свой час мне шмат давялося гутарыць і нават працаваць з кіраўнікамі гаркома, райкома КПБ. Некаторыя з іх пераходзілі на беларускую мову, некаторыя вучыліся, нехта гаварыў, што пакуль што не здольны зрабіць паварот да роднай мовы. Але нават у апошніх сёння ёсць неўразуменне: «Як жа зусім адмаўляцца ад беларускай мовы? Яна ж нават у назве рэспублікі прысутнічае».

Пра адмаўленне ад роднай мовы. Самае распаўсюджанае цяпер на тэлебачанні, на радыё інтэрв'ю: карэспандэнт задае пытанні па-беларуску, а адказ адразу ж гучыць па-руску. Аказваецца, усе вы, даражэнькія, можаце быць перакладчыкамі. Вы ж разумееце, што ў вас пытаюцца па-беларуску».

## МУЗЫКА

Мікалай Пятрэнка — самадзейны кампазітар. Само гэта слова «самадзейны» нясе ў сабе вельмі розныя адценні. Але ў плане афіцыйным маецца на ўвазе, што ў музыкі адсутнічае спецыяльная кампазітарская адукацыя і ён не з'яўляецца членам саюза, які аб'ядноўвае прафесіяналаў. Узровень жа таленту, вартасць рэчаў, створаных кампазітарам, пад афіцыйныя вызначэнні не падпадаюць. Затое вызначае людзей, якія займаюцца музыкай не дзеля заробку, сапраўдная адданасць мастацтву, вернасць музыцы, пастаянная патрэба ў ёй.

Пятрэнка ад бацькі навучыўся іграць на мандаліне, потым самастойна, у час вучобы на Мазырскім педагагічным рабфаку, асвоіў ноты. У 1936 годзе, пасля паступлення ў Мінскі педінстытут, стаў іграць у аркестры. А на другім курсе быў ужо запрошаны ў аркестр народных інструментаў Беларускага радыё, прафесіянальны калектыў. Гэты аркестр даваў магчымасць не толькі мець нейкі «прыварак» да стыпендыі — плацілі нешта, але, самае галоўнае, даў трывалую школу, наблізіў не толькі да народнай музыкі, але і да класікі, бо аркестр выконваў і класічную музыку, спявалі з ім Александроўская, Млодак.

Пасля вайны ў педагагічных вучылішчах таксама не расставаўся з музыкай, нават выкладаў яе студэнтам.

Першую песню напісаў у 55-м. Патрэбна была яна для рэпертуару іх мастацкай самадзейнасці. Потым яго «Ой, старонка мая ты лясная» на вершы А. Астрэйкі развучвалі па Беларускім радыё. Але вяршыняй песеннай творчасці Пятрэнкі сталі «Ручнікі».

«Працаваў я тады часова ў Ветрынскай школе-інтэрнаце завучам, вучылішчы ж зачыняліся. Кіраваў адначасова і хорам школы. А спявалі там усе — і дырэктар, і выкладчыкі, і повары. Былі ў хоры дзяўчаты з неблагой музычнай падрыхтоўкай. І вось прачытаў у «Полымі» верш маладой тады В. Вярбы. Спадабаўся. Напісалася песня. Зразумела, прынёс яе ў свой хор. Але, бачу, не прымаецца яна, нешта не тое. Атрымліваецца нейкі банальны вальс. Канешне, развучваць песню не стаў, але працаваў над ёй. І неяк аднойчы нарадзілася тая мелодыя. Зімой 57—58 года мы з «Ручнікамі» аб'ехалі шмат вёсак на Полаччыне. Няпросты гэта быў час, але песні людзям патрабаваліся. Помню, дарог ніякіх. Прычапляем санкі да гусенічнага трактара, садзімся на іх — і паехалі на канцэрт.

У 59-м песня хораша прагучала ў Віцебску на аглядзе мастацкай самадзейнасці. Мне і гавораць: «Такая песня, пасылай у рэспубліканскі Дом народнай творчасці». Паслаў. А адтуль прыходзіць адказ: «Песня вялая, плохая, к исполнению не рекомендуем». Так, можна выконваць яе і вяла, а можна ж з іскрынкай, з жартам. У той жа год на дэкадзе Віцебскай вобласці ў Мінску ў мяне гэту песню купілі за трыццаць рублёў. Той жа Дом творчасці, бо песня ўжо шырока разышлася па Беларусі. Толькі на аглядзе ў Брэсце яе выконвалі ажно сем калектываў. Так і сталі «Ручнікі» народнымі. Яе і выконвалі, і запісвалі часцей без аўтарства».

Дарэчы, «Ручнікі» прынеслі Мікалаю Пятрэнку і пэўны даход, што для самадзейных кампазітараў даволі рэдка. Акрамя Дома творчасці нешта заплацілі яму «Песняры», нешта народны хор Беларусі імя Жыновіча. А потым песню «на корані» за 170 рублёў купіла Масква.

250 песень напісаў Пятрэнка. Некаторыя з іх сталі вядомымі, увайшлі ў рэпертуар прафесіянальных калектываў, некаторыя трывала замацаваліся ў самадзейнасці, нешта застаецца ў архівах. Але кампазітар працягвае працаваць. Вось і нядаўна выйшла кніга, у якой сабраны песні Пятрэнкі на вершы паэта з Пастаўшчыны Аркадзя Нафранавіча.

Увогуле, адносіны самадзейнага кампазітара і тых афіцыйных структур, ад якіх залежыць папулярызацыя яго творчасці, гучанне, — тэма асобная. Старэйшыя браты-прафесіяналы не толькі паблажліва паляпваюць малодшых братоў па плячы: «Пішы, нядрэнна атрымліваецца». Часам бывае і так, што самадзейны кампазітар раптам чуе ў чужой, але «прафесіянальнай» песні свае знаходкі. Так, Мікалай Макаравіч напісаў некалі «Незнаёмку» на вершы вядомага беларускага паэта. А потым з'явілася гэта ж песня яшчэ ў двух кампазітараў. І, як перакананы Пятрэнка, першаснова ў іх ягоная.

«Усё-такі раней да самадзейных кампазітараў адносіліся з большай увагай, ледзь не па два разы ў год арганізоўвалі для нас семінары. Запрашалі на ўсе з'езды Саюза кампазітараў. А на адным з іх увогуле ўвесь канцэрт быў з твораў самадзейных кампазітараў. Цяпер наша творчасць нікому не патрэбная.

Калі гаварыць шчыра, я непрыхільна стаўлюся да сучаснага шоу-бізнесу. Тут на першым плане ўсё-такі бізнес. Безумоўна, патрэба і ў гэтым напрамку музыкі ёсць, але калі будзе існаваць толькі гэта — збяднеем мы, вельмі збяднеем. Можна «накруціць» песню, можна знайсці выканаўцу, выпусціць яе да слухача. Але колькі пражыве такая песня? Без душы, без сапраўднай мелодыі. Толькі і прынясе карысці, што грошы зацікаўленым асобам. Проста ж і шчыра пісаць вельмі цяжка, але толькі так можна дайсці да людзей, сапраўды захапіць іх песняй».

## ШЛЯХ ПАКУТНІКА

Мне пашчасціла пазнаёміцца з Мікалаем Макаравічам гадоў дваццаць назад. Адраджэнскія ідэі, нацыянальная свядомасць у той час толькі п'янілі нашы сэрцы, і ён быў ужо сталы, нават стары па нашых мерках чалавек, памяркоўна адносіўся да ўсяго, што бачыў і разумеў, у нечым нават студзіў гарачыя галовы. А потым паступова, то з расказу блізкага знаёмага Пятрэнкі, то з публікацыі ў газеце ці часопісе стаў даведвацца і аб яго няпростым, нават пакутніцкім лёсе. Часам нават не верылася, што гэты жыццярадасны па сутнасці чалавек, аўтар такіх цудоўных песень, прайшоў праз пекла. Але гэта было...

Вайну ён сустрэў на салдацкай службе. Праўда, як чалавек адукаваны, быў у 41-м ужо намеснікам палітрука роты. Мінамётнай роты ў пяхоце. З гэтай ротай і сустрэў 2 чэрвеня вайну на самай мяжы, у Латвіі. У першым жа баі расстралялі тыя нешматлікія міны, што везлі з сабой ў конных падводах. Адступалі. Пад Марыямпалем цяжкае раненне ў нагу (і сёння не можа насіць звычайнага абутку, патрэбен спецыяльны), шпіталь у Каўнасе. Была да таго ж і кантузія, так што выратаваўся цудам, падабралі выпадкова артылерысты, якім перад вайной чытаў палітінфармацыі.

У шпіталі і трапіў у палон, які цягнуўся доўгія, доўгія гады. Недалечанага яго адпраўляюць ва Усходнюю Прусію, дзе давялося прайсці некалькі канцлагераў для ваеннапалонных. Потым — Цэнтральная Германія, лагер Фалінгпостэль, дзе ваеннапалонныя мёрлі як мухі. У асноўным нашы, бо чэхі, югаславы, палонныя іншых краін, якія ўваходзілі ў міжнародныя пагадненні аб ваеннапалонных, мелі нейкую палёгку. У Краіне Саветаў афіцыйна палонных не было, таму і адносіны да іх былі адпаведныя.

«У суткі давалі міску баланды з капусты, часта з вусенямі, і добра калі кавалачак эрзацхлеба. Усе мы пакутавалі ад голаду хваробай, якая вымушала падоўгу сядзець над ямай, засцеленай бярвеннем. Гэта была «прыбіральня». Потым 1200 чалавек адкамандзіравалі ў рабочую каманду. Капалі канавы на балоце. Восень, мокрыя. Адразу ўсе пачалі пухнуць. З той каманды засталося нас у жывых толькі 121 чалавек. Суровай была зіма 41—42 года нават у Германіі. А мы ж, савецкія ваеннапалонныя, пад адкрытым небам, хоць дождж, хоць снег. Толькі потым з'явіліся баракі.

Мяне выратавала, як гэта ні дзіўна казаць, параненая нага. Абувалі ж драўляныя «стукалкі», і ўжо праз некалькі дзён работы на балоце раны адкрываліся. Мяне пакідалі ў лагеры на падсобных работах. А тут можна было ўхапіць капусціну, бручччыну, чаго нельга было есці нават у голад — сырой бульбы. Не прымаў арганізм. Яшчэ вельмі цяжкі пачатак палону тым, што пастаянна праз перакладчыкаў нас ціснулі псіхалагічна: «Нямецкія войскі наступаюць, нямецкія войскі занялі...»

Больш чым дзесятак канцэнтрацыйных лагераў памяняў Пятрэнка не па сваёй волі за час палону. На розных работах працаваў, розным здзекам падвяргаўся. Як выжыў? Сам прызнае, што дапамагалі людзі, свае таварышы-ваеннапалонныя, успамінае немца-фельчара, былога сацыял-дэмакрата, француза, які падкормліваў. Навучыліся красці, маглі так схаваць некалькі бульбін, што ахова не адшукае на тваім целе.

А вайна пераваліла свой пік. Вайна набліжалася да Германіі. Пачалі арганізоўваць уцёкі ваеннапалонных. Сам Пятрэнка з-за нагі спачатку толькі дапамагаў, але пасля адной з дыверсій давялося ўцякаць з лагера і яму. Двойчы. І двойчы лавілі, збівалі, кідалі ў турму.

«Ніколі не забыць лагер смерці Флісэнбург. Страшней за яго не было. Туды прыбываеш, адразу ў так званую лазню. А пасля яе — на экзекуцыю. Стаяць фашысты, хто з драўлянай палкай, хто з гумавай, хто, прабачце, з сушаным бычыным... Апошняе самае балючае. А на нас жа толькі скура ды косці. Не кожны мог вытрымаць гэты здзек. Кожную ноч у лагеры расстрэльвалі ці вешалі. Уратаваўся тым, што трапіў з камандай на дацкую мяжу, тут капалі процітанкавыя равы. З 13,5 тысячы нас неўзабаве засталося толькі паўтары тысячы. Гэтак білі, калі ўпаў — ужо лічы, што цябе даб'юць. «Прыдбаў» я плеўрыт, а яшчэ палкай парвалі на спіне нейкі сасуд, кроў ад голаду, напэўна, згусала, царская хвароба, адным словам.

Зіму 44—45-га я адляжаў у непрытомнасці. Дарэчы, выратаваў тых паўтары тысячы Чырвоны Крыж, вайна блізілася да канца, немцы ўжо дапускалі яго прадстаўнікоў і да савецкіх.

А ў канцы, самым канцы вайны ледзь не загінуў. Калі саюзнікі падышлі да Гамбурга, нас пагрузілі ў эшалоны і 3700 чалавек вывезлі на карабель «Кап Аркопа», што стаяў у Любецкай затоцы ў чатырох кіламетрах ад берага.

Недзе ў апошнія дні красавіка нас перасталі карміць. Не было зусім вады. Я знаходзіўся на ніжняй палубе трохпалубнага турыстычнага карабля. Некалі на ім буржуа плавалі ў круізы. А цяпер вось чакалі свайго лёсу мы, 3700 зняволеных.

3 мая па беразе ішоў бой. І тут наляцела англійская авіяцыя, і нашу турму падпалілі, хоць быў карабель пад чырвоным крыжам. Узнялася паніка. Кінуліся наверх. Але ўжо на другой палубе пачалі задыхацца ад дыму. Зноў на ніз. Хто паспеў, а хто і не. Было нават так: люк забіты людзьмі, ногі ўнізе, але выцягнуць мы не можам, а верхняя частка тулава гарыць. Паразбівалі люкі, чэрпалі ваду, стараліся заліць пажар. Ды дзе ты зальеш. Я быў худзенькі, змог пралезці ў люк, па вяроўцы апусціўся ў ваду. А ў маі яна ўсяго 4-5 градусаў. Я ж у трусах і ўсё. Ну, думаю, канец. Побач патануў немец-вартаўнік, быў ён у поўнай амуніцыі. Але тут заўважыў, што адзін марак паплыў некуды. Да якарнага ланцуга! Я за ім — яшчэ пажывём. Забраўся па ланцугу назад на карабель. Далі мне нейкую коўдру. Карабель гарыць, а мы грэемся ля агню. Потым наша турма пачала нахіляцца ў мора...

З 3700 чалавек выратавалі толькі 223, два чалавекі тады ж і звар'яцелі.

На беразе мне стала зусім дрэнна. Нага і спіна даймалі. Быў амаль бездапаможны. Але ўжо канец, вайна скончылася. 20 мая нас ад англічан забралі на машынах у зону савецкіх войскаў. І трапілі мы зноў у... лагер. Давялося праходзіць камісію так званага «смерша».

## ТРЭБА ЖЫЦЬ

Лёс Мікалая Пятрэнкі, якім бы багатым на павароты, на пакуты ён ні быў, характэрны да лёсаў беларусаў XX стагоддзя. Гадаванец ужо савецкай школы і савецкага інстытута, ён верыў тым ідэалам, на якіх выхоўвалася даваенная моладзь. І з пачаткам вайны з амаль бескарысным наганам у руках ішоў у бой за гэтыя ідэалы. З верай у гэтыя ідэалы ў нямецкім лагеры браў у рукі газету «Правда», якая цудам трапіла ў Германію ў канцы вайны і была б смяротным прыгаворам для вязня ў выпадку, калі б яе знайшлі.

І не яго віна, што дзве машыны таталітарызму па абодва бакі фронту змалолі многія яго надзеі, надоўга «сапсавалі» біяграфію.

Гэтым дзвюм машынам, страшэнным і бязлітасным, Пятрэнка мог проціпаставіць толькі сваю прагу жыцця. І тады, калі ў шпіталі Каўнаса не сказаў пры допыце, што ён намеснік палітрука, а назваўся радавым салдатам. (Паверылі, бо не па-камандзірску быў стрыжаны, усё-такі тэрміновая служба.) І тады, калі па прапанове маёра «смерша», які аказаўся сапраўдным чалавекам, не лёг адразу ў шпіталь, а 11 кіламетраў, губляючы прытомнасць, ішоў у вайсковую часць, куды быў накіраваны гэтым маёрам. Калі б лёг у шпіталь у лагеры — далечвацца давялося б ужо ў Сібіры. А так ён трапіў на бальнічны ложак ужо як салдат дзеючай арміі.

Вайна бязлітасная заўсёды, вайна таталітарных рэжымаў бязлітасная ўдвая. І просты чалавек можа проціпаставіць гэтай нечалавечай навале толькі сваю патрэбу жыць. Дзеля працягу роду, дзеля існавання самога чалавека на зямлі.

Увесь гэты час задаваў сабе пытанне: а як здолеў выжыць Пятрэнка, іншыя пакутнікі лагераў, гадамі галадаючы, гадамі ў холадзе? Адкуль браліся ў іх проста фізічныя сілы? Ды такое жыццё ў пакаленняў простых людзей дваццатага стагоддзя. Голад прымаў у свае абдымкі чалавека з дзяцінства. Не бачыў ніякай раскошы ў сваёй вёсцы Барбароў на Прыпяці і Мікалай Пятрэнка. Ен памятае і голад 32—33 гадоў, ды і ў іншыя больш лагодныя гады галоўнай ежай была рыба да шчаўе. Ад вясны да восені хлапчукі хадзілі босыя. Ну, а колькі даводзілася павеславаць з бацькам-рыбаком па Прыпяці на лодцы, каб злавіць тую рыбіну! Вось дзе загартоўка! Парадаксальна, але нішчымніца даваеннага жыцця падрыхтавала пакаленне Мікалая Макаравіча да пакут вайны, дапамагла тады выжыць.

І застаецца толькі падзякаваць Богу, што не толькі фізічна гартавалі родная зямля, родная рака. Што менавіта тады, у дзяцінстве закладвалася ў чалавеку і любоў да роднага слова, да роднай мелодыі, да ўсяго таго, што называем Радзімай.

**Алесь КАСЦЕНЬ.**

РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...

# прапісацца ў Мінску

**Недасведчанаму чытачу гэта можа здацца вельмі простай справай. Але на справе атрымліваецца, што жыццё ў Мінску не робіць вас паўнапраўным жыхаром сталіцы.** Як паказвае практыка, варыянтаў атрымання прапіскі вельмі шмат. Мы ж пакажам галоўныя з іх.

**Першы**. Напрыклад, вы такі каштоўны спецыяліст на фірме, што яна не ўяўляе сваёй будучыні без вас. Тут усё проста. Фірма без жалю аддае гарвыканкому 200 «мінімалак» (у пераліку на валюту — 1600 долараў ЗША), які прапісвае вас у законным парадку. Але не кожнае прадпрыемства здольнае за такія грошы набыць сабе «дарагога» работніка. Што ж, трэба ісці іншым шляхам.

Калі твар у вас не крывы і характар хоць куды, можна проста ажаніцца, выйсці замуж і тады, натуральна, вас прапішуць, было б толькі куды. Пры заключэнні шлюбу прапіска не будзе вам каштаваць ні капейкі. Фіктыўны шлюб можа абысціся вам ад 200 да тысячы долараў (залежыць ад апетыту другой палавіны). Яе нават можна знайсці па рэкламных аб'явах.

Дарэчы, у тых жа газетах няцяжка адшукаць і **трэці** шлях ператварэння ў мінчука. Без цяжкасці можна знайсці тых грамадзян, якія робяць свой маленькі бізнес на лішніх 12 квадратных метрах. За адпаведную плату (як правіла, яна вагаецца ў межах 300—900 долараў). Разам з адказным кватэранаймальнікам пішацца заява-дагавор, у якой гаспадар дае згоду на прапіску. Некаторыя ўладальнікі лішніх метраў абяцаюць нават прыпісаць і грамадзян з блізкага замежжа. Але каштаваць гэта будзе разы ў два даражэй.

**Чацвёрты,** але не апошні. Можна абысціся і зусім «малой крывёй». Паспрабуйце знайсці ў больш чым паўтарамільённым Мінску блізкіх родных або дарагіх сяброў, якія будуць не толькі заўсёды рады прыняць вас як госця, але і разам з гасціннасцю змогуць прапанаваць вам прапіску. Для тых, хто па якіх-небудзь прычынах не можа выкарыстаць вышэй апісаныя спосабы атрымання мінскай прапіскі, раю спадзявацца на нашых дэпутатаў, якія ў хуткім часе абяцаюць разгледзець праект закона Рэспублікі Беларусь «Аб праве грамадзян на свабодны выбар месца жыхарства і перамяшчэнне».

**Сяргей КУРКАЧ.**

СІТУАЦЫЯ

# Дурылі групай, а ў турму сеў адзін

**Хутка год, як кандыдат фізіка-матэматычных навук, старшы выкладчык Гродзенскага дзяржуніверсітэта Артур Навумовіч не чытае лекцый студэнтам, а тлумачыць кампетэнтным органам, адкуль у яго аказалася такая каласальная сума грашовых знакаў з партрэтамі амерыканскіх прэзідэнтаў і што ён з ёй рабіў. Адразу заўважым, што хабар, на якім, здараецца, «гараць» спецыялісты вышэйшай школы, тут ні пры чым. І ўвогуле абставіны, якія адлучылі Артура Іванавіча ад універсітэта і прывялі яго ў турэмную камеру, з прафесіянальнай дзейнасцю выкладчыка ніяк не звязаны.**

З тлумачэнняў Артура Навумовіча вынікае, што ён падзарабляў у Гродзенскай гандлёва-прамысловай палаце на пазаштатнай аснове і меў пэўную цікавасць да камерцыі. У прыватнасці, выкладчыку хацелася набыць імпартны аўтамат па вытворчасці высакаякаснай мукі. Аднак гэта ўстаноўка каштавала нятанна, і, каб рэалізаваць свае планы, Артуру Іванавічу трэба было прыцягнуць інвестыцыі. Патэнцыяльных інвестараў ён убачыў у асобе прадпрымальнікаў Альгедаса і Ромаса. Літоўцы выказалі гатоўнасць разгледзець пытанне аб стварэнні сумеснага прадпрыемства, але не адразу, а пасля таго, як беларускі партнёр будзе правераны ў справе і атрымае вопыт работы з грашыма, абавязковы для будучай дзейнасці ў рамках СП.

Чаму ж навучылі кандыдата навук камерсанты з суседняй краіны? У агульных рысах набыты «вопыт» выглядае так. Выкладчык адкрывае спачатку ў «Белпрамбудбанку», а потым у «Пріорбанку» асабістыя валютныя рахункі і кладзе на іх долары, атрыманыя ад літоўцаў. Падставай для гэтага з'яўляюцца два фіктыўныя пасведчанні мытні аб тым, што валюта ўвезена з-за мяжы: спачатку 220 тысяч 200, а потым 215 тысяч «зялёных». Кожны дакумент каштуе 100 долараў і купляецца ў былога супрацоўніка Гродзенскай рэгіянальнай мытні Андрэя Шокі. Пасведчанне дае права на вываз валюты за мяжу, што і робіцца. Спачатку долары кладуцца ў банк, потым адтуль бяруцца, ну, а далейшы шлях «баксаў» — у Польшчу, канкрэтней у Люблін, дзе яны ўносяцца на рахунак мясцовага спіртзавода. Па такой схеме туды перакачала 120 тысяч 397 долараў. Паводле слоў А. Навумовіча, транспарт да Лderbліна яму забяспечвалі літоўцы, прычым на мытні ў Брузгах машыну заўсёды прапускалі без чаргі.

Потым адбыўся фініш «выпрабавальнага тэрміну» выкладчыка, аднак зусім не па прычыне стварэння СП. Мытным пасведчаннем, атрыманым ад буйнога ўкладчыка, зацікавілася служба бяспекі галоўнага філіяла АКБ «Пріорбанк» па Гродзенскай вобласці, распачалі следства супрацоўнікі КДБ. У выніку дзеянні «кур'ера» па дастаўцы валюты ў Польшчу былі кваліфікаваны як «кантрабанда ў буйным памеры». Суд Ленінскага раёна г. Гродна прызначыў яму 4 гады пазбаўлення волі ў папраўча-працоўнай калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Канфіскаваны таксама прадмет кантрабанды — 22.812 долараў 50 цэнтаў, якія А. Навумовіч не паспеў зняць з банкаўскага рахунку.

Што датычыць Андрэя Гокі, дык ён за падробку мытных дакументаў атрымаў 2 гады папраўчых работ па месцы працы з утрыманнем 20 працэнтаў заробку ў даход дзяржавы. Ну а дзе ж вышэйпамянёныя Альгедас і Ромас? Гэтыя асобы следствам не ўстаноўлены. З матэрыялаў крымінальнай справы нельга зразумець, за якія канкрэтна паслугі расплачваліся з Люблінскім спіртзаводам і чаму разлік ішоў не напрамую па лініі Літва—Польшча, а праз Беларусь. Праўда, у справе фігуруе гродзенская фірма «Мэкс-Опцім-Джоун», прадстаўнікі якой пару разоў ездзілі ў адной машыне з А. Навумовічам у Люблін і плацілі за спірт. Аднак гэта структура сваю дзейнасць спыніла, і месцазнаходжанне яе шэфа пакуль невядома. Матэрыялы адносна «Мэкс-Опцім-Джоун» выдзелены следствам у асобную вытворчасць. Пакуль жа няма фактаў, якія б сведчылі аб дачыненні гэтай фірмы да валюты, на якой «пагарэў» А. Навумовіч.

Такім чынам, на сённяшні дзень маецца больш пытанняў, чым адказаў. Выкладчыку-«кур'еру» дасталіся турэмныя харчы, а сапраўдныя арганізатары афер, не выключана, сядзяць цяпер за бутэлькай каньяку з «казырнай» закускай, адзначаючы поспех чарговай «аперацыі».

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

ЧОРНЫЯ ДАТЫ БЕЛАРУСКАЙ ГІСТОРЫІ:

# 2 сакавіка 1942 года

## У гэты дзень у Мінску адбыўся адзін з самых жорсткіх яўрэйскіх пагромаў за час фашысцкай акупацыі

Пурым — самае светлае, самае вясёлае, карнавальнае яўрэйскае свята. Згодна з месячным яўрэйскім календаром Пурым гэтага года прыпадае на 5 сакавіка. А вось у 1942 годзе ён выпаў на 2 сакавіка і стаў для яўрэяў Еўропы адным з самых трагічных дзён за ўвесь перыяд другой сусветнай вайны. У гэты дзень у выніку старанна спланаванай акцыі аднačасова ва ўсіх гета на акупіраванай фашыстамі тэрыторыі адбыліся масавыя крывавыя пагромы, у час якіх загінулі сотні тысяч яўрэяў. Нацысты наогул любілі ўчыняць пагромы ў дні яўрэйскіх ці агульнадзяржаўных савецкіх святаў: першая хваля шматтысячных забойстваў пракацілася па гарадах і мястэчках ужо ў кастрычніцкія святы 41-га.

Яўрэі ведалі, што ў Пурым 42-га іх будуць забіваць: акупанты і іх добраахвотныя памагатыя з ліку мясцовага насельніцтва не рабілі з гэтага вялікага сакрэту, і таму, напэўна, у многіх гета ім не ўдалося правесці гэтую акцыю дакладна і арганізавана.

Трэба сказаць, што ў межах гарадской рысы расстрэлы фашыстамі, як правіла, не праводзіліся. У Мінску, напрыклад, для гэтай мэты выкарыстоўваліся яры і кар'еры ў Драздах, Тучынцы (цяпер — раён вуліц Альшэўскага і праспекта Пушкіна), Кальварыйскія могілкі. Для гэтага ж былі пабудаваны і печы крэматорыяў на ўскраіне вёскі Малы Трасцянец, за шэсць кіламетраў ад Мінска па Магілёўскай шашы (цяпер горад ужо падышоў да гэтага месца). Туды нават была падведзена чыгуначная ветка для тых, хто падлягаў неадкладнай ліквідацыі без часовага «кватаравання» ў Мінскім гета.

Гета знішчалася павольна, метадычна. Пагром за пагромам скарачаў колькасць яго насельніцтва і велічыню тэрыторыі, якая сціскалася, як шчыгрынавая скура. Плач і стогн сталі над гэтым маленькім кавалачкам зямлі, дзе на плошчы крыху больш як адзін квадратны кіламетр скапілася каля 100 тысяч чалавек (у Мінску да вайны пражывала ўсяго 240 тысяч жыхароў). Бог адвярнуўся ад яўрэяў.

2 сакавіка 1942 года месцам знішчэння некалькіх тысяч яўрэяў з Мінскага гета фашысты выбралі ўскраіну чыгуначнай станцыі Койданава каля Дзяржынска, за 35 кіламетраў ад Мінска. А яшчэ гэты дзень быў азнаменаваны тым, што на карце яўрэйскіх пакут з'явіўся новы пункт — кар'ер на ўскраіне Мінска, вядомы цяпер як «Яма».

Некалі, да вайны, тут была гарадская ўскраіна — далей пачыналіся татарскія агароды. Цяпер гэта цэнтр горада, раён Палаца спорту. У гады акупацыі літаральна побач з гэтым месцам праходзіла граніца гета, якую абазначаў калючы дрот, што аддзяляў «яўрэйскую» частку горада ад «рускай». Пад дротам можна было пралезці — і пралазілі. Праз дрот можна было зрабіць абмен: з боку гета перадаваліся рэчы, каштоўнасці, нават дзеці; у бок гета ішлі прадукты, медыкаменты, фальшывыя дакументы на беларускія імёны. І быў гэты дрот граніцай паміж жыццём і смерцю. У той трагічны дзень, 2 сакавіка 1942 года, фашыстам спатрэбіўся гэты стары закінуты кар'ер на ўскраіне горада.

Не ўсё гладка складалася ў акупантаў з гэтым пагромам. Узнавіць сапраўдную карціну трагедыі, відаць, ужо не ўдасца, але адно ясна: правесці акцыю раптоўна забойцы не змаглі. Вязні, адчайна супраціўляючыся, адмаўляліся выконваць загады карнікаў. На тэрыторыі гета — на вуліцах і ў завулках, у дамах і сярод магіл старажытных яўрэйскіх могілак — з'явіліся трупы людзей. І не дзесяткі — сотні. Колькі? Хто гэта можа цяпер сказаць?

Спрабуючы адвесці ад сябе гнеў начальства, сваю справаздачу ў Берлін аб гэтай акцыі мінскія фюрэры пачалі менавіта з таго, як рыхтавалася масавае знішчэнне яўрэяў. Упор рабіўся на захаванні задумы ў тайне, г. зн. на тым, чаго якраз і не ўдалося дасягнуць.

«Камандзір Гофман загадаў з 1 па 3 сакавіка правесці ў Мінску і Койданаве вялікую акцыю супраць рускіх яўрэяў абодвух полаў. Для захавання ў тайне намечанага мерапрыемства юдэнрату было паведамлена, што 5000 яўрэяў з гета будуць «перасялены», яны павінны быць адабраны юдэнратам і сабраны для адпраўкі, кожны з яўрэяў мог узяць з сабой багаж вагой у 5 кг. Сапраўдная задача, што стаяла перад начальнікам паліцыі бяспекі і СД, была захавана ў тайне».

Але, як мы ўжо гаварылі, тайны не атрымалася, вязні аказалі карнікам жорсткае супраціўленне. І пачалося яно з супрацоўнікаў юдэнрата — спецыяльна створанага фашыстамі Яўрэйскага камітэта, які фармальна стаяў на чале гета. Большасць членаў гэтага камітэта (Рудзіцэр, Серабранскі і інш.) былі звязаны з антыфашысцкім падполлем. Старшыня юдэнрата, былы намеснік дырэктара Мінпрамгандлю Ілья Мушкін з лютага 1942 года ўжо знаходзіўся ў гестапа (у сакавіку яго расстралялі). Дык вось, распараджэнне СД юдэнрат не выканаў.

«Калі раніцай 1 сакавіка 1942 г. гета было акружана, ніводны яўрэй не быў прадстаўлены юдэнратам да адпраўкі, — адзначаў аўтар паведамлення ў Берлін. — Таму былі ўведзены ў дзеянне каманды для вызвалення ад яўрэяў часткі гета. Толькі пасля гэтага яўрэі былі сабраны і доўгай калонай накіраваны на ст. Мінск-Таварная».

Ведаючы пра прыгатаваны ім лёс, людзі рабілі ўсе, каб ратаваць сябе і сваіх дзяцей, унукаў. Але педантычным немцам трэба было выканаць загад — знішчыць 5000 чалавек, і пачалася барацьба з зусім безабароннымі людзьмі, у большасці сваёй старымі, жанчынамі і дзецьмі — мужчынская частка гета ў саставе рабочых каманд да таго часу была выведзена ў горад. Рабілі гэта зусім п'яныя немцы на чале з оберштурмфюрэрам Шмітам.

Расстрэлы на станцыі Койданава працягваліся два дні. Справаздача, прадстаўленая ў Берлін аб гэтай акцыі, захавалася. У ёй падрабязна апісваецца жудасная працэдура бойні, учыненай над тысячамі зусім безабаронных людзей, уся віна якіх была толькі ў тым, што яны былі яўрэямі. Уражвае спакой, з якім аўтар справаздачы апісвае ўсе падрабязнасці пакарання смерцю: як людзей распраналі, як вялі да траншэй, як выстройвалі ў рад, як стралялі у патыліцу, як дабівалі параненых, як адны «беглі, крычалі і плакалі», а іншыя «скараліся лёсу без крыкаў і галашэнняў»...

І ўсё ж план фашысты не выканалі: як падлічылі педантычныя нямецкія службісты, за два дні было знішчана 3412 чалавек. Са справаздачы не ясна, ці ідзе размова толькі пра тых, каго паклалі ў траншэі пад Койданавам, ці ў гэтую колькасць уваходзяць і тыя, хто застаўся ляжаць на тэрыторыі гета.

Пра тое, што адбывалася ў гета ў тыя хвіліны, калі людзей зганялі ў калоны, мы даведваемся з таго ж дакумента: «Многія не пакідалі добраахвотна сваё жыллё ці пастараліся пазбегнуць адпраўкі. У адносінах да іх была прыменена сіла, а некаторыя з іх былі расстраляны на месцы. Пасля ачысткі гета ў дамах і на вуліцах ляжала шмат трупаў, пазней яны былі прыбраны».

Цяпер мы ведаем, куды яны былі «прыбраны». І мы ведаем цяпер, як яма стала «Ямай».

Вось куды былі скінуты целы тых, хто не захацеў строіцца ў калону і ісці на бойню, хто ў меру сваіх слабых магчымасцей аказваў супраціўленне п'янай салдатні, хто палічыў за лепшае памерці, але не стаць на калені. Яны засталіся ляжаць у крыві на вуліцах і ў завулках, у дамах і сярод магіл старажытных могілак, і толькі потым іх скінулі ў яму. Колькі іх там ляжыць, у «Яме»? Чатырыста? Пяцьсот? Ці яшчэ больш? У гета было сагнана да таго часу каля ста тысяч чалавек, таму і лік ішоў на тысячы.

Я не ведаю, ці захавалася імя хоць бы аднаго чалавека, пра якога дакладна вядома, што ён ляжыць у «Яме», але мы ведаем, што менавіта ў той трагічны дзень свой апошні шлях прайшлі выхаванцы дзіцячага дома гета, і гэта быў шлях да «Ямы».

У гэты ж дзень былі знішчаны інвалідны дом гета і частка работнікаў непакорнага юдэнрата.

«Яма» — не адзіная брацкая магіла на тэрыторыі былога Мінскага гета. На нямецкай карце яўрэйскіх могілак на Сухой, што захоўваецца ў інстытуце Яд Вашэм (яе прывёз з Іерусаліма старшыня Асацыяцыі вязняў гета Ф.Ліпскі), указаны месцы чатырох такіх пахаванняў.

Той абеліск, што стаіць цяпер на «Яме» (дакладней было б сказаць «у яме»), узведзены ў 1946 годзе, і гэта быў першы ў СССР помнік яўрэям — ахвярам гітлераўскага генацыду. Грошы на яго збіралі ўсёй грамадой — у два заходы, стукаючыся ў кожны яўрэйскі дом. Неўзабаве аналагічны помнік з'явіцца ў Панарах — гэтым «Бабіным яры» Вільнюса. Але ўнутрыпалітычная сітуацыя ў краіне пачала хутка мяняцца — у Мінску быў забіты вялікі акцёр Саламон Міхаэлс, пачалася барацьба з «бязроднымі касмапалітамі», якімі, як на грэх, аказваліся амаль адны яўрэі, былі арыштаваны члены Прэзідыума Яўрэйскага антыфашысцкага камітэта, а ў выніку група адэскіх яўрэяў, што збірала грошы на «свой» абеліск, адправілася ў ГУЛАГ. А пасля таго, як у 1952 годзе быў узарваны помнік у Панарах, мінскі абеліск застаўся ледзь не адзіным, што захаваўся з таго страшнага сталінскага часу, і ўжо толькі таму ён уяўляе сабой унікальную гістарычную каштоўнасць.

У апошнія гады, з ростам нацыянальнай самасвядомасці яўрэяў, іх цікавасці да гісторыі свайго народа, слова «Яма» стала адным з сімвалаў катастрофы на Беларусі, трывала ўвайшло ў наш лексікон як месца масавага знішчэння яўрэйскага насельніцтва ў гады другой сусветнай вайны (гэтак сама ж, як слова «яр» у адносінах да Украіны — Бабін Яр у Кіеве, Драбіцкі Яр у Харкаве). І ўсе гэтыя «ямы» і «яры», незалежна ад таго, стаяць на іх абеліскі ці не, доўга яшчэ будуць трывожыць хворае сумленне чалавецтва.

**Якаў БАСІН.**

*Мінск.*

# У ДОБРЫ ШЛЯХ, ФІЛІЯ!

**Адным з першых дзяржаўных крокаў новага міністра культуры спадара А. Сасноўскага стаў загад, падпісаны ім 27 лютага, аб адкрыцці на базе Мазырскага музычнага вучылішча філіі факультэта завочнага навучання Беларускага універсітэта культуры.**

Гэта азначае, што цяпер падрыхтоўка спецыялістаў культуры вышэйшай кваліфікацыі перастала быць прэрагатывай сталіцы, а перанеслася і на перыферыю.

Чакаецца, што гэты акт паспрыяе развіццю культуры унікальнага Палескага рэгіёна.

**Уладзімір МАМОНЬКА,**
**галоўны спецыяліст Міністэрства культуры.**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 6.50 | 17.53 | 11.03 |
| Віцебск – | 6.41 | 17.42 | 11.01 |
| Магілёў – | 6.39 | 17.43 | 11.04 |
| Гомель – | 6.32 | 17.43 | 11.11 |
| Гродна – | 7.02 | 18.11 | 11.09 |
| Брэст – | 7.04 | 18.11 | 11.07 |

### МЕСЯЦ

**Поўня 5 сакавіка**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Цімафея, Яўстафія, Георгія**
**К. Тэафіла, Фрыдэрыка**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца воблачнае надвор'е, снег, слабая мяцеліца. Тэмпература паветра ў Гомелі, Магілёве, Віцебску, Мінску — 4—6, Гродне і Брэсце — 5—7 градусаў марозу.

У наступныя двое сутак: 6-га уначы — на большай частцы тэрыторыі, удзень — месцамі невялікі снег; 7-га пераважна без ападкаў. Тэмпература ўначы — 9—14, месцамі да 19, удзень — 2—7 градусаў ніжэй нуля.

### Медыцынскі прагноз надвор'я на 5 сакавіка

Надвор'е будзе вызначацца полем паніжанага атмасфернага ціску. Чакаюцца ваганні (спачатку рост, а потым паніжэнне) асноўных метэаэлементаў. **5 сакавіка – неспрыяльны дзень па геафізічных фактарах.** У такіх умовах магчыма пагаршэнне самаадчування ў метэазалежных хворых з сардэчна-сасудзістай паталогіяй, захворваннямі дыхальнай сістэмы і страўнікава-кішачнага тракта.

Рэкамендуецца пазбягаць фізічных псіхаэмацыянальных нагрузак, рэгулярна прымаць лекавыя прэпараты, прызначаныя ўрачом, заспакаяльныя сродкі (настойкі сардэчніку ці валяр'яну), пачаць курс прыёму полівітамінаў, якія ўтрымліваюць у сваім саставе вітаміны «А» і «Е».

**Антаніна КАРОЗА,**
**навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**

АКТУАЛЬНА!

# ВЯЛІКАЯ ПРАБЛЕМА Ў МАЛЕНЬКІМ КАНВЕРЦЕ

Гісторыя станаўлення і развіцця паштовых сувязей змяшчае мноства цікавых старонак. Напрыклад, гісторыю з'яўлення і хаджэння звычайных, у сённяшнім разуменні, пісьмаў. Гэта быў час, калі нашы продкі свае паведамленні наносілі клінапісным тэкстам на гліняныя таблічкі. Затым такія пісьмы-таблічкі змяшчалі ў гліняныя (звычайна з неабпаленай гліны) «канверты», прызначаныя для захавання тайны перапіскі. Каб прачытаць такое пісьмо, «канверт» разбівалі.

З таго часу цывілізацыя ўнесла свае карэктывы, а паштовы канверт набыў даволі рэспектабельны выгляд і заняў дастойнае і ўстойлівае месца сярод розных формаў сувязі. Па меры іх развіцця ён стаў неабходным атрыбутам пісьмовых паведамленняў, кантактаў. Попыт на яго пачаў пастаянна павялічвацца, бо канверт стаў не толькі сродкам захавання тайны перапіскі. Сёння ён з'яўляецца і носьбітам пэўнай інфармацыі. Па-мастацку афармлены, ён не толькі цешыць вока, але і даносіць вам інфармацыю аб якой-небудзь з'яве нашага жыцця, цікавай падзеі. Нарэшце, ён выконвае звычайныя функцыі ўпаковачнага пакета для вашага пісьма.

Як усё ясна, гранічна проста! Здавалася б, пры вялікім на яго попыце можна было б выгадна папоўніць і даходны артыкул бюджэту. Зрабіць, напрыклад, прыгожыя сувенірныя наборы канвертаў з адлюстраваннем на іх выдатных мясцін Беларусі, яе гарадоў. Дапоўніць гэтыя наборы маркіраванымі паштоўкамі з беларускай дзяржаўнай сімволікай і г. д. Павялічыць, нарэшце, іх выпуск у межах поўнай гадавой патрэбнасці беларускай пошты.

А патрэбнасць гэта вызначаецца ў 60 мільёнаў канвертаў. Калі ўлічыць, што маладая беларуская дзяржава сістэматычна развівае свае кантакты са знешнім светам, то і патрэба ў канвертах будзе рэгулярна павялічвацца. Адпаведна павялічыцца эканамічны і палітычны эфект пры выкарыстанні такой колькасці носьбітаў інфармацыі. Але галоўнае, што будзе задаволены пастаянны попыт на іх з боку спажыўцоў. Бо сёння ва ўсіх гарадах рэспублікі попыт на канверты не задавальняецца. Гэта толькі з улікам дзелавой перапіскі. Але трэба ўлічыць і тую акалічнасць, што наша жыццё ўзбагачаецца і папаўняецца ўсё новымі памятнымі і святочнымі днямі календара. Яны ў сваю чаргу павялічваюць патрэбнасць у канвертах для віншаванняў то з традыцыйнымі, то з прафесіянальнымі святамі. Расшыраюцца кантакты і па лініі культурных сувязей, як расшыраецца і сама інфармацыйная прастора паміж людзьмі.

Як жа вырашаецца праблема канвертаў у маладой незалежнай дзяржаве?

Яшчэ параўнальна нядаўна рэспубліка поўнасцю забяспечвалася прадпрыемствамі Дзяржзнака СССР. Але з развалам былога СССР змяніліся і ўмовы забеспячэння Беларусі такімі неабходнымі для ўсіх элементарнымі канвертамі. Бо спецыялізаванай вытворчасці па вырабу канвертаў рэспубліка не мае і па сённяшні дзень. Не было сваёй вытворчай базы і па выпуску дзяржаўных знакаў паштовай аплаты. Так атрымалася, што, стаўшы незалежнай суверэннай дзяржавай, рэспубліка стала поўнасцю залежнай у вытворчасці знакаў паштовай аплаты, у тым ліку і паштовых канвертаў.

Выявіўшы такую акалічнасць, Камісія па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь вымушана была на сваім пасяджэнні разгледзець і абмеркаваць гэта пытанне. У прынятым рашэнні былі вызначаны канкрэтныя рэкамендацыі, з якімі камісія і звярнулася да ўрада.

Кабінет Міністраў, выслухаўшы гэты зварот, адшукаў магчымасць выдзеліць частку неабходнай валюты і набыць абсталяванне для вытворчасці дзяржаўных знакаў паштовай аплаты. Што датычыць абсталявання для вытворчасці канвертаў, то пра яе, відаць, забыліся. Магчыма вырашылі, што такую «дробязь» можна клеіць самім. А можа, хтосьці з уплывовых і ўсёмагутных вырашыў упісаць новую старонку ў гісторыю пошты? Згодна з гэтай прадпасылкай, канверты наогул не спатрэбяцца ў новай адкрытай і суверэннай дзяржаве!

Толькі людзі не падпарадкоўваліся гэтай тэндэнцыі і працягвалі патрабаваць канверты. Бо практыку сувязей з дапамогай пісьмаў ніхто ў свеце не адмяняў. Значыць, Беларусь павінна быць забяспечана канвертамі!

Паштовая адміністрацыя рэспублікі прыкладвала немалыя намаганні, каб адшукаць любыя магчымасці пастаўкі патрэбных канвертаў. З працягнутай рукой звярталіся да вытворцаў канвертаў у Расіі, Прыбалтыцы. Заключаліся кантракты, якія ў далейшым не выконваліся. А калі і выконваліся, то з парушэннем тэрмінаў пастаўкі і якасці заяўленых канвертаў.

Сёння са старым абсталяваннем папяровая фабрыка г. Барысава пастаўляе па 300 тыс. канвертаў у месяц. Яшчэ два мільёны канвертаў пачаў пастаўляць г. Вільнюс. Але сярэднямесячная патрэбнасць рэспублікі ў канвертах складае пяць мільёнаў канвертаў. Так нараджаецца дэфіцыт — амаль як у Райкіна!

Натуральна, што з ростам дэфіцыту расла і колькасць нездаволеных спажыўцоў. Часам стваралася яўна крытычнае становішча з задавальненнем спажывецкага попыту.

Да таго ж прасочваўся і негатыўны бок у разліках рэспублікі за выкананую і пастаўленую прадукцыю з-за рубяжа. Кошт пастаўленых адтуль канвертаў пастаянна ўзрастаў і адмоўна адбіваўся на пакупных магчымасцях насельніцтва рэспублікі і яе арганізацый. Яшчэ больш складана было вырашаць і забяспечваць патрэбны асартымент паштовых канвертаў. Бясконцыя перагаворы с пастаўшчыкамі, розныя ўзгадненні па тэлефоне і факсе ўзнікаючых пытанняў павялічвалі кошт пастаўляемых нам, часам недабраякасных, канвертаў. І нават пры вырашэнні і ўзгадненні пэўных пазіцый дадатковай пастаўкі нечакана ўзнікалі чарговыя цяжкасці. Напрыклад, папярэдняя аплата заказу. Гэтая і іншыя цяжкасці з забеспячэннем рэспублікі канвертамі пастаянна стваралі не толькі напружанне. Яны адмоўна ўплывалі на вытворчы рытм і псіхалагічную абстаноўку ў калектывах работнікаў паштовай сувязі. Параджалі неабгрунтаваную нездаволенасць і скаргі спажыўцоў.

Для суверэннай і незалежнай дзяржавы такое становішча з забеспячэннем яе канвертамі недапушчальнае. Яно негатыўна ўплывае на прэстыж рэспублікі, яе эканамічнае і палітычнае становішча. Дзе ж выйсце? Яно адшукваецца. Але перш за ўсё трэба адкінуць нігілістычны падыход да ацэнкі «дробязей». Цвяроза асэнсаваць неабходнасць мець для рэспублікі ўласную вытворчасць канвертаў. Ці мы і далей будзем хадзіць з працягнутай рукой па краінах замежжа і літаральна вымольваць іх (канверты) для сябе? Ці мы сталі настолькі багатымі, што будзем сістэматычна пераплачваць кошт іх вырабу? Бо ў канчатковым выніку гэта падаражанне ляжа на плечы нашых людзей.

Агульнавядома, што набыццё за мяжой такой «складанай» прадукцыі, якой з'яўляецца канверт, звязана з вялікімі фінансавымі і тэхнічнымі цяжкасцямі.

Тут адбіваецца і плаваючы курс беларускага рубля, складанасць аператыўнага размяшчэння і вырабу ў патрэбныя тэрміны заказу, іншыя фактары з розным афармленнем грузу і г. д.

Як бачым, з-за палавінчатага вырашэння пытання па выпуску дзяржаўных знакаў паштовай аплаты ўзніклі іншыя немалаважныя праблемы. Праблема з адсутнасцю неабходнага ў рэспубліцы абсталявання па вытворчасці канвертаў — гэта не будаўніцтва металургічнага камбіната. Аднак гэту праблему не вырашае ні Міністэрства фінансаў рэспублікі, ні яго структурны орган, які называецца Дзяржзнакам. Забылі аб просьбе камісіі Вярхоўнага Савета і ва ўрадзе рэспублікі. Наладзіўшы вытворчасць уласных знакаў паштовай аплаты, упусцілі самае нязначнае — забыліся аб тым, што іх трэба на штосьці ці некуды наклейваць(!).

Можа цяпер другая Камісія Вярхоўнага Савета — па транспарту і сувязі зверне ўвагу ўрада на неабходнасць вырашыць усё ж і другую частку пытання? Пытання, аб якім раней напамінала Камісія па адукацыі і культуры?

А тым часам праявіў сапраўдныя клопаты аб прэстыжы беларускай дзяржавы адзін са слухачоў Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце рэспублікі. Ґрунтоўна вывучыўшы ўзнікшую праблему, ён зрабіў тэхніка-эканамічнае абгрунтаванне арганізацыі вытворчасці ў рэспубліцы канвертаў. У ім пераканаўча даказана высокая яго прадукцыйнасць і рэнтабельнасць.

У прыватнасці, даказана, што пры выпуску гэтым прадпрыемствам 60 мільёнаў канвертаў у год рэспубліка атрымае 2 мільярды рублёў прыбытку. У гэтым абгрунтаванні сур'ёзна заяўляюць аб сабе і палітычныя аспекты такой вытворчасці.

Даволі пераканаўчыя і іншыя аргументы. Так, беларуская вытворчая база дасць магчымасць не толькі выпускаць больш танную прадукцыю. Яна дасць магчымасць значна расшырыць яе наменклатуру не толькі для ўласных патрэб, але і для задавальнення патрэбнасці іншых рэгіёнаў краін СНД. Яе эфектыўнасць дасць магчымасць у найкарацейшыя тэрміны аднавіць вытворчасць і даць дзяржаве адчувальны прыбытак. Сёння ясна, што з павелічэннем палітычнай і эканамічнай актыўнасці Беларусі патрэбнасць у канвертнай прадукцыі ўзрасце. Яе нельга будзе задавальняць за кошт паставак з-за рубяжа.

Ужо ёсць гатовае тэхніка-эканамічнае абгрунтаванне стварэння ўласнай базы. Пытанне ў іншым: хто праявіць ініцыятыву і азнаёміцца з праектам? Ён праляжаў ужо год. Відаць, спатрэбіцца ўжо не проста ініцыятыва, а жорсткае ўказанне ўрада. Відаць, гэтага чакаюць тыя, каго датычыць гэта ў першую чаргу.

Несумненна адно. Настаў час пазітыўнага разгляду ўзнікшай праблемы. У адваротным выпадку мы будзем у паштовых справах адкінуты ў далёкае мінулае. І тады можа ўзнікнуць казачны час, калі мы свае пісьмовыя пажаданні будзем укладваць у гліняныя «канверты».

**Анатоль ЛІСОЎСКІ.**

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 5 сакавіка

### Беларускае тэлебачанне

**7.30** Ранішні кактэйль. **7.50** Эканамікст. **8.00** Навіны. **8.15** Аўта-парк. **8.30** Абібок. **9.00** Тэлебачанне — школе. Гісторыя Беларусі. 5-ы клас. Жыццё людзей на старажытнабеларускіх землях. **9.30** «Вестгейт». 34-я серыя. **10.25** «Чароўная лаўка». Мультфільм. **10.35** «Дом з прывідамі». Маст.фільм з субцітрамі. **12.00** «Наша мама — герой». Дак.фільм. **12.45** «Соф'я Кавалеўская». Трохсерыйны маст.фільм.1-я серыя. **15.00** Навіны. **15.15** «Пыркі на тым беразе». Дак.фільм. **15.35** «Буронка з Маслёнкіна». Мультфільм. **15.50** Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 11-ы клас. Янка Брыль і яго творчасць. «Ад зямлі, ад працы, ад жыцця...» **16.20** «Усё пра ўсё». Праграма для дзяцей. **16.45** «Экамір-96». **17.20** Урокі Наталлі Наважылавай. **17.50** Музычны антракт. **18.00** Урачыстае пасяджэнне, прысвечанае 100-годдзю з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі Кандрата Крапівы. Трансляцыя з Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. **18.50** Навіны (з сурдаперакладам). **19.05** Урачыстае пасяджэнне, прысвечанае 100-годдзю з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі Кандрата Крапівы (працяг). **20.40** Калыханка. **21.00** Панарама. **21.55** Музычны антракт. **22.05** Іна Чурыкава ў мастацкім фільме «Рабро Адама». **23.25** Чэмпіянат Англіі па футболу. «Ньюкасл Юнайтэд» — «Манчэстэр Юнайтэд». У перапынку **(24.00)** — Навіны.

### ГРТ

**5.00** Тэлераніца. **8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.55** Навіны. **8.15** «Сакрэт трапіканкі». **9.05** «Мы». Аўтарская праграма У. Познера. **9.50** Смехапанарама. Вядучы — Я. Петрасян. **10.15** «Далёка, далёка на поўдні». Мультфільм. **10.30** «Адгадай мелодыю». **11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Свет». «Мы і рынак». **12.00**. «ТАСС упаўнаважаны заявіць». 10-я серыя. **14.20** «Драконы падзямелляў». **14.40** Квар'етэ «Вясёлая квампанія». **14.50** Мульціролія. **15.10** Чароўны свет ці Сінема. **15.35** «Элен і хлопцы». **16.00** ...Да шаснаццаці і старэй. **16.30** «Сем дзён спорту». **17.20** «Сакрэт трапіканкі». **18.10** Гадзіна пік. **18.35** «Адгадай мелодыю». **19.05** «Тэма». **19.45** «Добрай ночы, малышы!» **20.00** Час. **20.30** «Аперацыя». **20.45** Праграма перадач. **20.50** Усевалад Санаеў у фільме Васіля Шукшына «Ваш сын і брат». **22.35** «Масква — Крэмль». **23.05** Хіт-парад. **23.45** «Т.С.Н.» («Тэлевізійная служба навін»). **0.35** «Сем дзён спорту».

### Канал «Расія»

**15.05** Свята кожны дзень. **15.15** Тамтам навіны. **15.30** «Востраў Марыі». Дак.фільм з цыкла «Перамены ў маім жыцці»(Ірландыя). **15.45** Кліп-антракт. Валерыя. **15.50** Каляндар. **16.00, 19.00, 22.00** Весткі. **16.20** Новая лінія. **16.55** Кіно ў сакавіку. **17.10** Ваша права. **17.25** Вуснамі дзіцяці. **17.55** Кіно з працягам. «Пецярбургскія тайны». **19.25** Падрабязнасці. **19.35** «Першы паверх». Маст.фільм. **21.00** Двайны партрэт. А.Шырвінт і М.Дзяржавін. **21.40** Рэктайм. **22.30** Гандлёвы дом. **22.35** Рака часу. **22.40** Аўтаімгненне. **22.45 —0.35** Футбол. Кубак УЕФА. «Баварыя» (Мюнхен) — «Нотынгем Форэст» (Нотынгем).

### РТР

**10.30**. СІВ. Навіны. **10.35** Музычны кліп. **10.40** Невядомая Масква. **10.50** Тэлеграф. **11.05** Музыка ў поўдзень. **11.35** «Тэдзі Бір». **11.40** На залатым ганку сядзелі... **11.55** Абарона і бяспека. **12.00** Магазін на канапе. **12.30** Гадзіна «Рэаліста». **13.30** СІВ. Навіны. **13.35** Казкі для бацькоў. «Пачатак». 1-ы год жыцця дзіцяці. **14.05** Незабыўны тэатр. «Дзень прыезду — дзень ад'езду». Спектакль Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Массавета. Частка 2-я. **15.10** Г. Дадамян. Атлантыда савецкага мастацтва. **15.40** «Бім, Бам, Бом і воўк». Мультфільм. **16.00** «Імёны». Кампазітар А. Эшпай. **16.30** Вышэйшая школа. **16.45** СІВ. Навіны.

### НТБ

**17.00** «Цудоўныя гады». 92-я серыя (ЗША). **17.30** У пошуках прыгод. **18.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма. **18.35** Герой дня. **19.00** Свет кіно. Толькі для жанчын. Моніка Віці ў фільме Стэна «Мае любыя мужы» (Італія). **20.40** «ТЭФІ-96». Хто ёсць хто. **21.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма. **21.35** «Доктар Куін, жанчына-ўрач». 44-я серыя (ЗША). **22.30** Часінка. **23.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма. Начны выпуск. **23.20** Меламанія: «Ціна Тэрнер».

### Санкт-Пецярбург

**12.00, 13.00, 14.00, 15.30, 18.30, 21.45** Інфарм ТБ. **12.10** «Першае каханне». Серыял. 2-я серыя. **13.10** Хуткая дапамога. **13.40** Парады садаводам. **13.50, 16.55** Музычны момант. **14.10** Авертайм. **14.25** «Цуда-млын». Мультфільм. **14.45** «Еўрапейскі калейдаскоп». **15.15** Стыль жыцця. **15.40** «Нямецкая хваля». **16.00** Тэлешансон. **16.25** Дзецям пра зверанят. **17.00** Па ўсёй Расіі. **17.10** Паказвае Ленінградская АПТК. **18.10** Вялікі фестываль. **18.50** Спартыўныя навіны. **18.55** «Першае каханне». 2-я серыя. **19.50** Тэлеслужба бяспекі. **20.00** «Дом кіно» да 70-годдзя Анджэя Вайды прадстаўляе аўтарскую версію фільма «Зямля запаветная». **22.00** Спорт, спорт... **22.10** Дзень нараджэння. **22.20 —23.40** «Зямля запаветная» (працяг).



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 68-28-71. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.
Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.
Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 113326. Індэкс 63850.
Зак. № 1133.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12